Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!



# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 19 жніўня 1988 г. № 33 (3443) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

ЛЮДЗІ РОДНАГА КРАЮ



Ведаеш, здаецца, усе ролі любімай актрысы, але ў нейкі момант ловіш сябе на думцы — а якая яна не на сцэне, а адзін на адзін са сваімі зямнымі турботамі і радасцямі?

Той, хто бачыў народную артыстку БССР Марыю Захарэвіч толькі на сцэне, магчыма, уяўляе яе ў жыцці не такой — вонкава простай, нават «хатняй», з крыху стомленымі вачамі і ўсмешкай. А між тым, гэты фотапартрэт раскажа вам, відаць, пра актрысу куды больш, чым занатаваныя на дзесятках фотаздымкаў яе ролі.

А да ўсяго гэтага застаецца дадаць, што 28 жніўня Беларускі дзяржаўны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы адкрывае свой чарговы сезон. Сярод майстроў сцэны купалаўскага тэатра гледачы будуць мець асалоду бачыць яе, Марыю Захарэвіч.

Фота А: ШАБЛЮКА.

## ФАРБЫ СУСВЕТНАГА ФАЛЬКЛОРУ

У многіх канцэртах давялося прымаць удзел самадзейным артыстам народнага ансамбля песні і танца «Лідчанка» Лідскага гарадскога Дома культуры, а таксама фальклорнага ансамбля са Столінскага раёна. Але выступленні ў Маскве запомняцца ім асабліва. Гэтым двум калектывам выпаў гонар прадстаўляць нашу рэспубліку на Першым міжнародным фестывалі фальклору.

На працягу пяці дзён масквічы і госці сталіцы мелі магчымасць пазнаёміцца з майстэрствам звыш трох тысяч выканаўцаў і народных майстроў з дваццаці двух краін свету. ВДНГ СССР і Канцэртная зала імя П. І. Чайкоўскага, Калонная зала Дома Саюзаў і сталічныя паркі ператварыліся ў месцы вялікага фальклорнага свята.

Адзін з канцэртаў адбыўся ў Зялёным тэатры Цэнтральнага парку культуры і адпачынку імя М. Горкага. Прадстаўнікі Беларусі выступалі ў ім разам з пасланцамі Афганістана, Кампучыі, Вялікабрытаніі, Грузіі.

Сардэчна вітаў удзельнікаў і гасцей Міжнароднага фестывалю фальклору М. С. Гарбачоў, які зазначыў: «Дзесяцігоддзе культуры, аб'яўленае ЮНЕСКА напаўняецца рэальным зместам. Наша краіна пастаянна клапоціцца аб стварэнні неабходных умоў для развіцця народнай творчасці, захаванні і прымнажэнні культурнай спадчыны».

Зроблены пачатак яшчэ адной важнай традыцыі. Чарговы Міжнародны фестываль фальклору пройдзе праз два гады ў сталіцы Савецкай Украіны — Кіеве.

## З УЗНАГАРОДАЙ!

**За заслугі ў развіцці савецкага музычнага мастацтва Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР узнагародзіў кампазітара Лучанка Ігара Міхайлавіча ордэнам Кастрычніцкай рэвалюцыі.**

●

**За шматгадовую плённую работу па прапагандзе і развіццю беларускай савецкай літаратуры і актыўны ўдзел у грамадскім жыцці Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР узнагародзіў дырэктара Беларускага аддзялення Літаратурнага фонду СССР Вільтоўскага Васіля Антонавіча Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.**

●

**За плённую літаратурную дзейнасць і актыўны ўдзел у грамадскім жыцці Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР узнагародзіў пісьменніка Спрынчана Браніслава Пятровіча Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.**

## У НУМАРЫ:

●

**П**РАЦУЮЧЫ ў «Беларускім выдавецкім таварыстве» ў Вільні, Янка Купала дбайна збіраў літаратурныя, творчыя сілы Беларусі, заклікаў пісьменнікаў друкаваць творы ў выдавецтве, імкнуўся выдаць іх зборнікі.

Так, у прыватнасці, Я. Купала хацеў выдаць кніжкі нашых землякоў Гальяша Леўчыка і Кандрата Лейкі.

Ліст Я. Купалы да Г. Леўчыка аб падрыхтоўцы да друку яго зборніка вядомы. А вось ліст Янкі Купалы да Кандрата Лейкі нідзе дасюль не публікаваўся, няма яго і ў Літаратурным музеі Янкі Купалы. Ён знаходзіцца ў школьным музеі «Літаратурная Слонімшчына».

Я. Купала тады пісаў:

«Вельмі паважаны пане!

Беларускае Выдавецкае Таварыства ў Вільні хацела б выдаць сваім коштам Вашы творы асобнай кніжкай. Калі б Вы, паночку, на гэта згадзіліся, то шчыра б Вас прасілі падабраць і акуратна прагледзець матэрыял для кніжкі і прыслаць нам яго ў мажліва скорым часе. Кніжку пастарайцеся зрабіць па магчымасці таўсцейшую.

Чакаючы ад Вас хуткага адказу, астаюся са шчырай да Вас пашанай.

Сакратар Выдавецтва
Ів. Луцэвіч.

Вільня 21.2.14 г.»

Кандрат Лейка з радасцю прыняў прапанову выдаць яго творы і ў лісце ў «Выдавецкае таварыства» 8.4.1914 г., у прыватнасці, пісаў: «У гэты томік, каторы я хачу назваць «Засеўкі», могуць увайсці вось якія мае творы: «Маці і дзеці» (замест прадмовы), «Кульгавы дзядзька Раман», «Панас Крэнт», «Лес шуміць», «Гарасімаў грэх», «Абмылка», «Сляпы дзед Якаў», «Таклюся-сухотніца», «Успамін» і «Навальніца» (вершык)...

Аб адным я толькі прашу, каб не змянялі слоў, бо я стараўся пісаць іх так, як гавораць каля Слоніма, дзе беларуская мова лічыцца самаю чыстаю...»

Аднак зборнік твораў К. Лейкі не пабачыў свет.

**Мікалай СІДАРОВІЧ,**
**кіраўнік школьнага музея.**

г. Слонім.

●

**Г**ЛЯДЖУ НА ПАЛІЦЫ **сваёй бібліятэкі і не магу не радавацца. Колькі імён, колькі твораў! Сярод кніг — шматлікія выданні Янкі Купалы і Якуба Коласа, Кузьмы Чорнага і Івана Мележа, Васіля Быкава і Івана Навуменкі, Аркадзя Куляшова і Пімена Панчанкі — ды ці пералічыш усіх...**

**На жаль, больш скупа чамусьці прадстаўлены старэйшы беларускі пісьменнік Кандрат Крапіва. Апошняе яго выданне, як мне помніцца, было ажыццёўлена ў 1974 годзе ў пяці тамах (пасля гэтага паявілася ў друку, бадай, адна кніжка). І ў бібліятэках яны сталі рэдкасцю. А між тым байкі Крапівы не толькі не ўстарэлі, але і сталі сёння асабліва актуальнымі.**

**А больш за ўсё хвалюе лёс тых пісьменнікаў, хто пачынаў сваю творчасць адразу пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі. Сярод іх — таленавіты паэт і празаік Міхась Чарот.**

**У маіх руках яго стары, у чырвонай вокладцы двухтомнік выдання 1958 года. Ён стаў выключнай рэдкасцю. Дарэчы, творчасць паэта калісьці сур'ёзна вывучалася ў школах, людзі старэйшага пакалення многія яго вершы і цяпер ведаюць на памяць, успамінаюць паэмы «Босыя на вогнішчы», «Марыну», «Чырвоны вяшчун», «Ленін».**

**А што ведае пра Міхася Чарота моладзь? Спытай любога вучня — і ён не скажа, калі жыў і што напісаў гэты аўтар, якое месца ён займае ў літаратуры. А Чарота ж ніяк нельга забываць, бо ён часцінка нашага духоўнага жыцця, нашай культуры.**

**Шмат мы гаворым і пішам пра таленавітага празаіка Барыса Мікуліча. Гэта быў, можна сказаць, феномен у беларускай літаратуры. За кароткі час свайго жыцця ён напісаў столькі, што мог бы пазайздросціць любы з яго аднагодкаў. Хто, напрыклад, са старэйшых людзей не памятае яго аповесці «Дружба», якая з'явілася вынікам экскурсіі ў брацкую Грузію? А такія буйныя творы, як «Дужасць», «Цяжкая гадзіна», «Жыццё Вінцэся Шастака» і інш.? Што ведае аб іх масавы чытач? Праўда, пасля вайны паявілася пара яго кніжак, але толькі «выбранае». А чаму б не выдаць збор твораў?**

**Мне пашчасціла ў першыя пасляваенныя гады сустрэцца з пісьменнікам на кватэры яго сваякоў у в. Церхавічы на Лагойшчыне. Будучы рэпрэсіраваным, ён прадаўжаў пісаць і прывёз з сабой нямала навінак. Аднак спроба надрукаваць іх натыкалася на рагаткі. Ніхто не адважваўся знайсці смеласць пры жыцці «бацькі Сталіна» зноў адкрыць для чытача гэтага пісьменніка. «Чагосьці баяцца, — скардзіўся Барыс. — І дакуль так будзе — невядома».**

**Марам пісьменніка не было суджана здзейсніцца. Неўзабаве ён зноў быў арыштаваны і ўжо не вярнуўся дадому.**

**А ўзяць яшчэ аднаго такога ж таленавітага празаіка, якім з'яўляецца Рыгор Мурашка. Рэдка знойдзецца такі чалавек, што ведае яго аповесці «Сын» або «У іхнім доме». За выключэннем рамана «Салаўі святога Палікара», пасля вайны нічога не выдавалася. А ў яго ж, апрача названых, нямала навел. Адна з іх «Смерць маткі» — напісана ў часе мінулай вайны і надрукавана ў лагойскай раённай падпольнай газеце «За Савецкую Беларусь». Магчыма, дзе-небудзь захаваўся яго цікавы фельетон «Чаму спыніўся шматвяковы род Швайнбергаў». Гэты твор я трымаў у сваіх руках, ён не быў надрукаваны ў падпольнай раёнцы толькі з-за сваіх вялікіх памераў.**

**Спіс забытых аўтараў можна было б прадоўжыць, але даволі і гэтага. На маю думку, трэба перавыдаць творы згаданых тут аўтараў.**

**Б. САСНОЎСКІ,**
**заслужаны работнік культуры БССР.**

г. Лагойск.

●

**Д**РУГІ ГОД выпісваю газету «Літаратура і мастацтва», хоць жыву далёка ад Беларусі, на поўдні Украіны, у г. Нікалаеве. Пытанні захавання архітэктурных і гістарычных помнікаў, якія ўздымае газета, знаходзяць у мяне поўнае разуменне і падтрымку. У сувязі з гэтым хочацца пагаварыць пра г. Полацк, самы старажытны наш горад.

У 1987 годзе адзначалася 175-ая гадавіна Айчыннай вайны 1812 года. У газетах пра гэта шмат пісалася, але нідзе я не знайшоў публікацый пра помнікі героям гэтай вайны. А яшчэ ж у 1912 годзе, да стогадовай гадавіны вайны, на тэрыторыі Расійскай імперыі было пастаўлена мноства помнікаў, якія дайшлі да нашых дзён і напамінаюць нам пра мужнасць і гераізм абаронцаў Айчыны. Быў такі помнік і ў г. Полацку, у самым цэнтры, каля Мікалаеўскага сабора. Аднак у гады, калі знішчаць помнікі гісторыі ў гарадах Беларусі было модна, калі гарадскія ўлады як бы спаборнічалі паміж сабой, хто зробіць гэта хутчэй, помнік героям вайны 1812 года і Мікалаеўскі сабор былі знесены. Вызваленае месца доўга пуставала. Цяпер на месцы сабора стаіць вялікі дзевяціпавярховы дом, які цісне на архітэктурнае акружэнне і цалкам перакрывае від на помнік архітэктуры XI — XVIII стст. — Сафійскі сабор.

Хочацца спытаць: «Што грандыёзнае стварылі мы ўзамен знесенага?»

Лічу, што агульнымі намаганнямі варта прыняць неабходныя меры па аднаўленні страчанага помніка героям вайны 1812 года. Думаю, што гэтую праблему можна вырашыць хутчэй, чым аднаўленне Сухаравай вежы ў г. Маскве, Успенскага сабора ў Кіева-Пячорскай Лаўры, ансамбля плошчы Свабоды ў г. Мінску. Тым больш, што існуе макет помніка, які захоўваецца ў г. Віцебску, у абласным краязнаўчым музеі.

І калі да 180-годдзя Айчыннай вайны 1812 года ў цэнтры старажытнага Полацка будзе стаяць адроджаны помнік героям, якія аддалі жыццё за Айчыну, то гэта будзе рэальным выпраўленнем памылак, дапушчаных нашымі папярэднікамі ў дачыненні да выхавання гісторыяй.

**А. ЮР'ЕЎ.**

г. Нікалаеў.

●

**Н**АШЫ ГАРАДЫ **ў сваёй большасці не маюць выразнага нацыянальнага аблічча, бо ў іх моўным афармленні, назвах вуліц, устаноў беларуская мова амаль не ўжываецца; у іх не адчуваецца сувязь часоў, бо помнікі мінуўшчыны знішчаны як бязлітаснымі войнамі, так і ў выніку ўласнай нядбайнасці. У назвах вуліц зусім не ўвекавечаны або вельмі недастаткова імёны славутых людзей нашай Бацькаўшчыны: Кірылы Тураўскага і Францішка Скарыны, Сымона Буднага і Міколы Гусоўскага, Ігната Буйніцкага і Уладзіслава Галубка, Кастуся Каліноўскага і дзеда Талаша і шмат якіх іншых. Амаль няма помнікаў гэтым людзям і іх музеяў, а ім варта быць не толькі на іх радзіме, але і ў сталіцы, іншых гарадах, бо яны — наша агульнанародная слава. Да таго ж малады чалавек не чуе ў гарадах і жывую беларускую мову.**

**Ці здольны чалавек, выхаваны ў такім асяроддзі, да самавыражэння як творчая асоба, як асоба ўвогуле? Такі чалавек не можа быць і інтэрнацыяналістам, бо ці можна паважаць людзей іншых нацыянальнасцей і карыстацца іх павагай, калі не мае за душой свайго роднага? Такі народ, як зазначыў К. Т. Мазураў («ЛіМ» за 15 красавіка 1988 г.), з цягам часу становіцца касмапалітычным.**

**Не магу пагадзіцца з тымі людзьмі, якія ў кожнай спробе чытачоў прапанаваць некаторыя (прытым зусім не радыкальныя) меры па ўзмацненні сацыяльнага статусу беларускай мовы, вышукваюць так званы прымус, а найлепшым месцам для павагі і шанавання мовы лічаць сям'ю (журналіст В. Крыжэвіч, «ЛіМ» за 8 красавіка г. г.). Хіба добраахвотна людзі адракаюцца ад роднай мовы? Хіба можна назваць прымусам дзяржаўныя клопаты аб вывучэнні, больш шырокім ужыванні на тэрыторыі нацыянальнай рэспублікі яе роднай мовы? На мой погляд, такія дзяржаўныя клопаты аб развіцці нацыянальнай мовы, нацыянальнай культуры, праўдзівай гісторыі народа цалкам адпавядаюць нормам ленінскай нацыянальнай палітыкі, запатрабаванням нашага часу, які характарызуецца пачаткам шырокамаштабнай перабудовы ва ўсіх сферах жыцця.**

**М. ХАДОРКІН,**
**начальнік фінансавага аддзела Гомельскага хімічнага завода, дэпутат раённага Савета.**

**хонск. У студзені 1917 года тут адбылася сустрэча А. Блока і А. М. Талстога. Жыхары Лапаціна і Колбаў пабывалі ў музеі паэта.**

**На наступны год тут адбудзецца дзесятае юбілейнае свята Блокаўскай паэзіі. Яно пройдзе на вялікай паляне ў Колбах, ля шатаў векавога дуба, побач з мініяцюрнай, надзіва прыгожай капліцай, якую двойчы маляваў паэт.**

На свяце Блокаўскай паэзіі ў вёсцы Парахонск.

Фота У. ШУБЫ.
БЕЛТА.

РЭПЛІКА

# І ГЭТА ПРЫКЛАД ДЛЯ МАЛАДЫХ?

Да ганебнага спісу дрэнных літаратурных «дзядзькоў», да тых, хто як быццам не хоча зразумець, хто трымае і не пускае маладых, Анатоль Казловіч рашуча аднёс і штотыднёвік «ЛіМ» (гл. артыкул «Хто яны—«Тутэйшыя»? у «Литературной газете» за 10 жніўня). Не вельмі ўтульна, прызнаемся адразу, пачувацца ў такой якасці. Прыходзіцца даказваць, што калі ты не такі ўжо добры дзядзька, дык хоць не вярблюд.

**Звернемся да рэчаіснасці, да фактаў. Аб чым гавораць яны, факты, гэтая, як вядома, вельмі ўпартая і аб'ектыўная рэч? А гавораць яны вось аб чым. Калі было створана таварыства маладых літаратараў пры СП БССР — газета «Літаратура і мастацтва» тут жа, свежым наборам, падрабязна паведаміла пра гэта. Неўзабаве адбылася сустрэча «Тутэйшых» з галоўным рэдактарам газеты, на якой размова ў асноўным ішла аб удзеле маладых у выданні штотыднёвіка, аб тым, каб яны смялей выступалі ў друку па надзённых праблемах перабудовы і абнаўлення. На сустрэчы было выказана пажаданне, каб газета прысвяціла творчасці членаў таварыства асобны нумар. Прапанова гэтая была прынята, стала тут жа ажыццяўляцца сумеснай працай прадстаўнікоў «Тутэйшых» і аддзелаў «ЛіМа». Нумар з вялікай падборкай твораў маладых выйшаў у свет (гл., Анатоль Мікалаевіч, «ЛіМ» за 2 кастрычніка 1987 г.). Зазначым яшчэ, што наогул многія з маладых літаратараў, якія арганізацыйна звязаны сёння з таварыствам «Тутэйшыя», з'яўляюцца актыўнымі, сталымі аўтарамі штотыднёвіка, творча раслі на яго старонках. У. Арлоў, С. Дубавец, А. Бадак, А. Дэбіш, А. Бяляцкі, А. Глобус, С. Кавалёў, Л. Сільнова, А. Сыс, У. Сцяпан, С. Тарасаў... Не так даўно «ЛіМ» блаславіў у літаратурную дарогу студэнта з Гродна Ю. Кісялеўскага, шле нам са Жлобіна свае творы В. Куртаніч...**

**Ігнаруючы ўсе гэтыя факты і ўсю карціну ў цэлым, А. Казловіч затое, у пошуках негатыву, хапаецца абедзвюма рукамі за лімаўскую заметку «Маладыя трымаюць экзамен». Хапаецца, адпаведна прэпарыруе яе, выхоплівае з кантэксту асобныя заўвагі і будуе на іх свой, па-пракурорску грозны абвінаваўчы акт. Пры гэтым — робячы выгляд, што газета потым не вярталася да тэмы вечара «Тутэйшых» у Доме літаратара, не прысвяціла ёй ледзь не паўтары паласы (артыкул Я. Лецкі «Экзаменатары, будзем справядлівымі!» і агляд чытацкай пошты (гл., Анатоль Мікалаевіч, «ЛіМ» за 5 лютага г. г.).**

Не будзем — памеры рэплікі не дазваляюць — спыняцца на тым, як А. Казловіч каменціруе асобныя мясціны з заметкі «Маладыя трымаюць экзамен». Хай гэта застаецца на яго сумленні. Але мусім звярнуць увагу на наступнае. Выступленне карэспандэнта «ЛіМа» А. Казловіч называе не інакш, як «паўпраўдай-паўхлуснёй». І тут паўстае пытанне аб тым, як пісьменнік і журналіст А. Казловіч разумее праўду, які сэнс укладвае ў гэтае паняцце. Карэспандэнт «ЛіМа» падзяліўся сваімі ўражаннямі, выказаў свае адносіны. Магчыма, што ён сапраўды ў нечым быў суб'ектыўны, што ён не лепшым чынам ацаніў публічнае выступленне маладых (газета, зноў-такі, пісала пра гэта). І калі вы, Анатоль Мікалаевіч, з ім нязгодны, дык так і скажыце, скажыце: я тут не згодзен з табой, тут ты памыляешся, калега... на маю думку... і г. д. А вы з парога: паўпраўда-паўхлусня! А вы — кляп у рот свайму апаненту. Ці гэта вы так уяўляеце плюралізм, іншадумства, культуру дыскусіі, «культуру нязгоды» (з'явіўся і такі тэрмін на старонках друку)? А калі ў вас такое ўяўленне, дык чаму вы тады патрабуеце ад некага «серьезного разговора», «делового, искреннего диалога»? Ці вы гэта робіце дзеля краснага слоўца?

Паўпраўда-паўхлусня... Такі гібрыд з'яўляецца не тады, калі нехта выказвае сваю думку пра той ці іншы факт, выкладае сваю пазіцыю ў дачыненні да той або іншай з'явы, а тады, калі нехта непаважліва абыходзіцца з фактамі, скажае іх, падмяняе адно другім. Менавіта па такім рэцэпце і напісаны артыкул А. Казловіча. Што, скажам, хоча ён сцвердзіць, які тэзіс правесці, маніпулюючы вытрымкамі з маніфеста «Тутэйшых»? А тое, што ва ўсіх бедах беларускай літаратуры і культуры вінаваты не дэфармацыі сацыялізму, не адміністрацыйна - бюракратычная сістэма, не культ, не застой, а... самі беларускія пісьменнікі. Вось каб не яны, каб іх не было — дык усё было б у ажуры. Дзіўная пастаноўка пытання, ці не так? Далей. Калі верыць А. Казловічу, дык у Саюзе пісьменнікаў БССР «Тутэйшыя» абвешчаны ледзь не ворагам нумар адзін і тут на іх глядзяць зласней, чым удаў на труса. Гэта ўжо не паўпраўда-паўхлусня, а проста хлусня. Таварыства «Тутэйшыя» ўзнікла і дзейнічае пры Саюзе пісьменнікаў, збіраецца на свае пасяджэнні ў яго памяшканні, на Фрунзе, 5. Аб творчасці і грамадскай дзейнасці членаў Таварыства, аб яго арганізацыйным статусе ішла размова і на пасяджэнні прэзідыума праўлення СП, і на сумесным пасяджэнні сакратарыята і камісіі па рабоце з маладымі, і на творчых секцыях. Прадстаўнікі «Тутэйшых» атрымлівалі слова на нядаўніх пленумах праўлення СП БССР (дзе, дарэчы, ішлі вострыя, глыбока зацікаўленыя, прынцыповыя дыскусіі па тых праблемах, якія А. Казловіч чамусь толькі яшчэ адкрывае для сябе і то праз радкі ўпамянёнага вышэй «Маніфеста»). Спецыяльную анкету прысвяціў «Тутэйшым» часопіс «Маладосць», а часопіс «Нёман» запрасіў іх за «круглы стол». Дзякуючы намаганням Саюза пісьменнікаў значна палепшыліся ўмовы для выдання маладых паэтаў і празаікаў. А. Казловіч гаворыць толькі пра альманах. Але пры адпаведным жаданні ён мог бы паведаміць усесаюзнаму чытачу, што згодна з нядаўнімі рашэннямі маладыя літаратары атрымліваюць не менш як 12 пазіцый у гадавым тэмплане выдавецтва «Мастацкая літаратура», што пачала выдавацца штомесячная (яшчэ 12 кніжак на год) бібліятэка часопіса «Маладосць». Дарэчы, два першыя выпускі гэтай серыі склалі творы «Тутэйшых».

І ў той жа час чытаем у артыкуле А. Казловіча: «За полтора года их всерьез никто не выслушал».

**Ці ёсць праблемы ў таварыства «Тутэйшыя»? Ёсць. Як і ў іншых, творчых і грамадскіх, фармальных і нефармальных, аб'яднанняў моладзі рэспублікі. Але праблемы гэтыя, перашкоды для творчай і сацыяльнай актыўнасці маладых на ніве перабудовы знаходзяцца ў іншай плоскасці, не ў той, на якую прадузята сфакусіраваў свой позірк Анатоль Казловіч. Шкада, што ён не ўлічыў вопыт той маладой паэтэсы, размовай з якой заканчвае свой артыкул, і ў выніку не лепшым чынам выкарыстаў каштоўную плошчу паважанай, аўтарытэтнай газеты.**

**ЭКАЛОГІЯ: ПРАБЛЕМЫ, СІТУАЦЫІ, КАНФЛІКТЫ**

**«...Другое пытанне — экалогія. Нездавальняючаму становішчу ў гэтай сферы на канферэнцыі было ўдзелена многа ўвагі. Вастрыня і неадкладнасць гэтай праблемы глыбока ўсвядомлены ў грамадстве і існуе грамадская думка, што тут патрабуюцца карэнныя змяненні ў падыходах».**

**(З даклада Генеральнага сакратара ЦК КПСС М. С. Гарбачова «Аб практычнай рабоце па рэалізацыі рашэнняў XIX Усесаюзнай партыйнай канферэнцыі» на ліпеньскім Пленуме ЦК КПСС).**



# АПЕРАЦЫЯ «АЎТАМАБІЛЬ-88»

*У 1984 годзе ў «Літаратуры і мастацтве» быў надрукаваны шэраг артыкулаў аб праблемах барацьбы з забруджваннем атмасфернага паветра ў рэспубліцы («Аперацыя «Аўтамабіль» — 23 сакавіка, «Аперацыя «Комін» — 10 мая, «Аперацыя «Паветра» — 15 чэрвеня). На свае выступленні рэдакцыя тады атрымала ад зацікаўленых ведамстваў падрабязныя адказы, дзе гаварылася аб мерах, ужытых да вінаватых, аб мерапрыемствах, накіраваных на ўсямерную падтрымку заканадаўстваў аб атмасферным паветры СССР і г. д.*

*Аднак, як сведчаць факты, стан паветранага басейна рэспублікі і сёння выклікае трывогу. Па-ранейшаму над прамысловымі гарадамі Беларусі вісяць цяжкія смогі, насельніцтва вымушана дыхаць забруджаным паветрам (у Магілёве, напрыклад, на кожнага жыхара ў год прыпадае 383 кілаграмы шкодных рэчываў). Няма, прынамсі, відавочных зрухаў у барацьбе з забруджваннем паветра аўтамабільным транспартам. З 220 тысяч тон шкодных рэчываў, якія, напрыклад, выкідваюцца штогод у паветраны басейн Мінска, палова прыпадае на аўтамашыны.*

*У рэдакцыі «ЛіМа» выспела думка прайсці па «старых сцежках», паглядзець, што змянілася (ці не змянілася) там, дзе некалі пабывалі лімаўскія карэспандэнты, суаднесці, параўнаць іх ранейшыя і сённяшнія назіранні і высновы.*

НЕДЗЕ НА ПАЧАТКУ чэрвеня на Магілёўскай шашы каля паста ДАІ я ўбачыў вялікі плакат з надпісам: «Таварышы вадзіцелі, з 15 мая па 15 чэрвеня 1988 года ў сталіцы рэспублікі горадзе-героі Мінску праводзіцца месячнік «Чыстае паветра». Падумалася: бач ты, якая ў ведамстваў прыхільнасць да месячнікаў! Якіх толькі не навыдумлялі: і «бяспекі руху», і «зялёнага сябра», і «выдатнага абслугоўвання» і... Хіба ўсе пералічыш? Па логіцы, астатнія адзінаццаць месяцаў можна, відаць, ездзіць на чырвонае святло, секчы, дзе хочаш, дрэвы, хаміць пакупніку і г. д. Утрырую? Не зусім. Ва ўсякім разе, бачыцца мне за кожным з гэтых месячнікаў чарговая кампанія, дзе больш клапоцяцца аб сённяшнім, чыста ўяўным эфекце, які можна красамоўнымі лічбамі адлюстраваць у справаздачы, чым аб сур'ёзным аналізе становішча.

Успомнілася мне, як чатыры гады назад акурат тут, ля паста ДАІ, мы разам з супрацоўнікамі дзяржаўнай інспекцыі па ахове атмасфернага паветра ў Беларускай ССР Вячаславам Рыжыкавым і Тадэвушам Пракаповічам правяралі аўтамашыны на ўтрыманне ў выхлапных газах СО — вокісу вугляроду. Успомню і сяржанта міліцыі, які дзяжурыў у «шпакоўніку» (як жартам называюць памяшканне паста ДАІ), яго скаргі на тое, што к канцу змены ён, бывае, так учадзіць, што ледзь трывае ад галаўнога болю.

І вось сёлетнім гарачым ліпеньскім днём я зноў удзельнічаў у рэйдзе на тым жа самым месцы ля паста ДАІ на «магілёўцы», з тымі ж Рыжыкавым і Пракаповічам. Толькі дзяжурыць тут на гэты раз другі чалавек — інспектар дарожна-патрульнай службы Генадзь Мякота. Высокі, мажны, і ён скардзіцца, што к канцу змены кепска сябе адчувае, а твар і рукі становяцца мурзатымі, нібы ў таго качагара. Дзіва што! Міма, у абодвух напрамках, ідзе бесперапынны паток аўтамашын.

Т. Пракаповіч выносіць з нашага «уазіка» «Інфраліт» — прыбор, якім вымяраюць утрыманне СО ў выхлапных газах аўтамабіляў, і ўстанаўлівае каля паста. Просім Г. Мякоту спыніць некалькі машын для праверкі. Ён выходзіць на шашу і, жэзлам спыніўшы адну з легкавушак, загадвае вадзіцелю: «Не глушыце матор, ідзе праверка на СО». Т. Пракаповіч звычным рухам засоўвае шланг прыбора ў выхлапную трубу аўтамабіля. Глядзім на шкалу прыбора. Стрэлка індыкатара некалькі секунд стаіць нерухома і раптам, ледзь прыкметна ўздрыгнуўшы, пачынае хутка рухацца ўправа. Нарэшце спыняецца на лічбе 8. Восем працэнтаў вокісу вугляроду ўтрымліваецца ў выхлапных газах гэтай машыны. Утрая больш дазволенага! В. Рыжыкаў просіць вадзіцеля выйсці з машыны, падводзіць яго да «Інфраліта», паказвае, дзе спынілася стрэлка. Шафёр чухае патыліцу, усім сваім выглядам дэманструючы страшэннае здзіўленне: «Не можа такога быць! Я ж нядаўна правяраўся — усё было ў норме, — памаўчаўшы, раптам выказвае здагадку: — А мо ваш апарат сапсаваны?» Вячаслаў Міхайлавіч пачынае запаўняць бланк для штрафу. Пасля ён будзе перасланы ў райвыканком па месцы жыхарства парушальніка, дзе той штраф і будзе спагнаны.

Тут, на Магілёўскай шашы, Г. Мякота спыніў па нашай просьбе яшчэ з дзесятак машын — прыватных, таксі, пасажырскіх «уазікаў», аўтобус. Недзе на кожнай трэцяй машыне было зафіксавана павышанае ўтрыманне вокісу вугляроду.

З такім жа малюнкам мы сустрэліся на Даўгінаўскім тракце, дзе нас суправаджаў ужо дзяржінспектар ДАІ Цэнтральнага РАУС сталіцы Аляксандр Найдзенка. Першай спыняе ён машыну Мінскай птушкафабрыкі. У газавых выкідах — 4 працэнты СО. Машына медыцынскай дапамогі — 6 працэнтаў, чыгуначнай бальніцы — 6 працэнтаў, трэцяга таксапарка — 3,5 працэнты, прыватная, якая належыць нейкаму Новіку, — 8 працэнтаў і г.д. Тлумачэнні ўсе аднаго плана: «Не мая справа, хай механік глядзіць», «Не ведаю, які павінен быць стандарт», «Больш не буду».

Разам з тым, Рыжыкаў, загадчык аддзела Дзяржінспекцыі па ахове атмасфернага паветра па БССР, і І. Ваніцкі, супрацоўнік тэхнічнага аддзела гарадской ДАІ, з якім я таксама доўга гутарыў, у адзін голас запэўнівалі мяне, што за апошнія год-два аўтамабільны транспарт у Мінску стаў куды менш атручваць паветра. Я паглядзеў свае старыя запісы. Сапраўды, у 1984 годзе «чадзілі» каля 40 працэнтаў правераных аўтамашын, сёлета — каля 30 (з 6577 — 2162 машыны).

Я ПАРАЎНОЎВАЮ гэтыя лічбы і, шчыра кажучы, асабліва радасці не адчуваю. Чаму? Таму што 110 тысяч аўтамашын (столькі іх сёння ў Мінску) атручваюць паветра з той жа інтэнсіўнасцю, як і раней, чатыры гады назад. Увесь фокус у тым, як лічыць. Барані божа, я далёкі ад думкі абвінавачваць у нейкім махлярстве правяраючых. Яны дзейнічаюць у адпаведнасці з інструкцыяй. Ды бяда, што інструкцыя гэта — параджэнне ведамаснага інтарэсу. Растлумачу. У 1984 годзе парушэннем лічылася ўтрыманне ў аўтамабільных выкідах ад паўтара да двух працэнтаў вокісу вугляроду, цяпер — ад двух з паловай да трох працэнтаў. Чатыры гады назад вадзіцеля за такія «паказчыкі» штрафавалі, пазбаўлялі на прадпрыемстве прэмій і да т.п. Сёння «трохпрацэнтнікаў» ці не хваляць за тое, што не перавышаюць «норму». У статыстыку парушальнікаў уваходзяць толькі тыя, хто «перабраў» гэтую лічбу. Вось ад чаго, бачыцца, і паменшала парушальнікаў у Мінску.

Нарадзілася тое «новаўвядзенне» летась у нетрах Мінаўтатранса РСФСР. Уяўляеце, міністэрства само сабе ўстанавіла межы шкодных выкідаў! Але самае дзіўнае, што тыя «дапушчальныя» межы былі зацверджаны неўзабаве Дзяржстандартам СССР і рэкамендаваны для ўжывання па ўсёй краіне, дарэчы, без узгаднення з саюзнай гідраметэаслужбай і рэспубліканскімі органамі аховы прыроды.

Барацьба супраць парушальнікаў Закона аб атмасферным паветры СССР часам нагадвае мне гульню ў хованкі, калі аднаму з удзельнікаў з завязанымі вачамі даводзіцца лавіць астатніх. Бывае, што і не зловіць...

Кантралюючым органам ніхто, вядома, вачэй «не завязвае», чаму ж так часта парушальнік застаецца няўлоўным? Як і чатыры гады назад, існуючая сістэма праверкі аўтамашын на ўтрыманне ў выкідах вокісу вугляроду, на маю думку, не дасканалая, грашыць многімі заганамі. Пераважае, па-першае, прынцып выбарачнай праверкі, які не дае, як было заўважана вышэй, аб'ектыўнай карціны забруджвання паветра аўтамабільным транспартам. Па-другое, парушальнік фактычна не баіцца ездзіць з неадрэгуляваным карбюратарам. Штраф? У многіх заходніх краінах за такое парушэнне, а тым больш неаднаразовае, можна трапіць у турму. У нас — ад 10 да 30 рублёў штрафу, які, дарэчы, спагнаць не так ужо і проста. Старшы дзяржінспектар Мінскага гарадскога ДАІ Ігар Ваніцкі расказваў мне, што неяк на Брэсцкай шашы былі спынены дзве аўтамашыны з вельмі высокім утрыманнем у адпрацаваных газах СО. Склалі акт на прадмет штрафу, хоць парушальнікі ўмольвалі: «Даруйце, больш такога не здарыцца». Якім жа было здзіўленне І. Ваніцкага, калі праз дзень на вуліцы Чырвонай у самым цэнтры сталіцы ў час выбарачнай праверкі аўтатранспарта яму зноў трапіліся гэтыя машыны (знарок не прыдумаеш), вадзіцелі якіх, як адразу высветлілася, і не думалі нешта прадпрымаць пасля той першай праверкі.

Работнікі ДАІ і Дзяржінспекцыі па ахове атмасфернага паветра ў адзін голас скардзяцца на неэфектыўнасць штрафных санкцый. Па-першае, яны чыста сімвалічныя. Па-другое, райвыканкомы вельмі неахвотна спаганяюць тыя штрафы. «Прыдзіраюцца там да кожнай дробязі, — расказвае І. Ваніцкі, — скажам, у акце не ўказана, што парушальнік азнаёмлены з шафёрскімі правамі і абавязкамі. На гэтай падставе нам вяртаюць акты, хоць зразумела, што кожны чалавек знаёміцца з гэтымі правамі, калі атрымлівае вадзіцельскае пасведчанне».

СМУРОДЗІЦЬ, атручвае паветра і ведамасны транспарт. Я прачытаў даведку аб правядзенні месячніка «Чыстае паветра», дзе прыводзіцца нямала фактаў эксплуатацыі аўтамашын, у выкідах якіх утрымліваецца шмат вокісу вугляроду. Напрыклад, на аўтабазе «Белрамонтбудсувязь» такіх машын — 46,6 працэнта, мінскага гарадскога аддзела аховы здароўя — 43,5 працэнта, вытворчага аб'яднання «Мінгаз» — 39 працэнтаў і г.д.

У тым, чатырохгадовай даўнасці артыкуле, давялося шмат пісаць пра мінскіх таксістаў — найбольш упартых, злосных парушальнікаў Закона аб атмасферным паветры СССР. Штонебудзь змянілася ў гэтым сэнсе? Гляджу дакументы месячніка. Выяўлены высокі працэнт СО у васьмі машынах 3-га таксапарка г. Мінска, дзесяці — першага. Пабываў на месцах. Галоўны інжынер 3-га таксапарка В. Макарэня паказаў мне дыягнастычны пост, абсталяваны апаратамі для ўлоўлівання вокісу вугляроду. Цікаўлюся, як часта машыны праходзяць гэтую праверку. Тлумачыць, што пры кожным тэхабслугоўванні, г. зн., недзе тры разы ў месяц. Такі ж парадак і ў першым таксапарку, дарэчы, самым вялікім у Мінску. «Выбарачна мы правяраем машыны рэгулярна, — кажа начальнік тэхаддзела М. Заруба. — І тут, пры выездзе таксі на лінію, і ў горадзе, на маршрутах». «І якія вынікі?» — цікаўлюся я. «Апошнім часам парушальнікаў стала менш», — заўважае Міхаіл Ільіч. Пазнаёміўся я з журналам, дзе занатоўваюцца вынікі праверак на СО менавіта на маршрутах. Запіс ад 25 мая (акурат ішоў месячнік «чыстае паветра») — з 11 правераных машын — 7 з перавышэннем вокісу вугляроду ў адпрацаваных газах. 10 чэрвеня — з 16 таксаматораў палавіна парушальнікаў.

Убачыўшы ў маіх вачах пытанне, М. Заруба тлумачыць: «Разумееце, гэтыя машыны я добра ведаю, правяраліся на СО пры выездзе на лінію. І ўсё было ў іх у парадку. А вось крыху ад'ехаліся...» — замаўкае ён. «І адкруцілі вінты якасці?» — здагадваюся я. Мой субяседнік згодна ківае галавой. Успамінаю чатырохгадовай даўнасці размову ў гэтым жа таксапарку. Аказалася, што ёсць нямала таксістаў, якія, варта ім выехаць за вароты парка, спыняюць машыну і адкручваюць гэты злашчасны вінт, які рэгулюе падачу гаручага ў матор. Гэта дае ім магчымасць павялічваць хуткасць, «прыёмістасць» машыны. Памятаю, я ніяк не мог уцяміць, навошта гэта ім трэба. «Такая псіхалогія ў таксіста, яму здаецца, чым хутчэй будзе бегчы яго «Волга», тым больш ён зарабіць», — тлумачылі мне. Ды ёсць тут адно «але»: як толькі вадзіцель адкручвае вінт якасці на большую падачу гаручага, адразу ў некалькі разоў у выхлапных газах яго машыны павялічваецца ўтрыманне вокісу вугляроду, і ўсе мы, міма каго праімчаўся таксіст з «прыёмістай» машынай, атрымліваем дадатковую порцыю страшэннай атруты, якая, між іншым, пагаршае састаў крыві.

Мне расказвалі тады кіраўнікі парка, як яны думаюць змагацца з гэтымі парушальнікамі. Цяпер, праз чатыры гады, я зноў слухаю, якія меры тут думаюць прымаць супраць тых «адкручвальнікаў», «Я чуў, што на аўтазаводах зараз будуць пламбіраваць вінт якасці, каб без механіка вадзіцель яго не змог чапаць», — паведамляе мне М. Заруба. Я кажу, што чуў пра гэта яшчэ чатыры гады назад...

Міхаіл Ільіч, які іграе ролю гасціннага гаспадара, прапануе мне паглядзець, як ідзе праверка машын на СО перад выездам іх на лінію. «Інфраліт» па яго загадзе ўстанаўліваюць на прахадной (ці тут больш правільна сказаць — «праязной») і загадваюць некалькім вадзіцелям, якія збіраюцца ехаць у горад, праверыць свае машыны. З дзесяці таксаматораў недзе ў чатырох у выхлапных газах вокісу вугляроду ўтрымлівалася звыш прынятага стандарта. Пры праверцы адной з гэтых машын аж зашкаліла прыбор — 10 працэнтаў СО! Я спытаў у вадзіцеля А. Шастаковіча, як даўно ён правяраў машыну на ўтрыманне гэтай атруты. Вадзіцель абыякава махнуў рукой: «Не помню». Шафёры, што стоўпіліся тут, пачалі сваё: «Запчастак няма», «На дрэнным бензіне працуем!». А нехта ўсумніўся ў якасці «Інфраліта»: «Апарат гэты маніць!» Я гляджу на «Інфраліт» (не, у дадзеным выпадку ён быў спраўны) і не магу ўсё-такі не думаць аб недасканаласці гэтага апарата. У халоднае надвор'е, напрыклад, ён не працуе, (нешта ў ім адразу замярзае), значыць, праверкі па-за стацыянарам адпадаюць самі сабой. Але ж і такіх апаратаў не хапае. Асабліва «Інфралітаў», якія мы купляем у ГДР. Ёсць, праўда, айчынныя — «ДАІ-1», але яны нетрывалыя. «Іх у нас сапсаваных, цэлы склад,—расказваў мне І. Ваніцкі, — але спісваць не дазваляюць, бо не выйшаў на іх яшчэ тэрмін».

ЗНОЎ ВЯРНУЎСЯ да сваіх вандровак па «аўтамабільных справах» у 1984 годзе. Па нейчай парадзе зайшоў я ў навукова-вытворчае аб'яднанне «Аўтатранстэх», дзе, як мне казалі, ідуць распрацоў-

(Заканчэнне на стар. 13).

**Пімен ПАНЧАНКА**

# Не адцураюся, не адракуся

«...Народный поэт республики Пимен Панченко принародно распростился с родным языком, перестал на нем писать по той причине, что древний белорусский язык теряет сферу своего употребления...»

В. БЫКАЎ. «Советская культура», 11 чэрвеня 1988 г.

**Дружа Быкаў,**
**Не трэба такіх сенсацый:**
**Я — сірата**
**Без маёй Беларусі.**
**Ад роднай мовы,**
**Ад роднай нацыі**
**Не адцураюся,**
**Не адракуся!**

**Я не журуся**
**Пра казачны век залаты,**
**Я не захоплены**
**І старажытнасцю моднаю...**
**І напісаў не аб *тым я*,**
**А толькі аб тым:**
**З ласкі чыноўнікаў**
**Родная мова ў намордніку,**

**А былі ж партызаны,**
**Пераможна грымелі баі,**
**Гарэла зямля**
**Пад нагой акупантаў.**
**Падмянілі народ:**
**Былі ў нас працавітыя ўсе,**
**А цяпер — гультаі, халуі...**
**І на горкую памяць**
**Падкінулі нам Курапаты.**

**Куды падацца**
**Вучням з беларускай?**
**Ляны бюракрат**
**Затыкае ім рот.**
**Да таго ж у ВНУ**
**Праход быў занадта вузкі:**
**Па званку,**
**Па блату**
**Ці за хабар**
**Лез прабіўны народ.**

**Дзеці ўжо не ведаюць**
**Родныя назвы**
**Кветак і птушак,**
**Кустоў і травы.**
**Яны не адрозняць**
**Граба ад вяза,**
**Дзе жаўна, дзе пліска,**
**А дзе журавы?**

**Адлучылі ад прыроды...**
**Не шукаюць унукі слядоў**
**Ні сваіх франтавых дзядоў,**
**Ні далёкіх і страшных гадоў.**

**І рыканне кароў,**
**І рык звяроў,**
**І сусветная рок-істэрыка —**
**Толькі па тэлеку,**
**Толькі па тэлеку.**

**...Да роднай зямлі я**
**Душою і сэрцам прыкуты,**
**Куюць зязюлі,**
**Клякочуць буслы на маёй Беларусі.**
**Ты радасць мая, Беларусь,**
**Ты гора маё і пакута,**
**І ад цябе я ніколі**
**Не адцураюся,**
**Не адракуся!**

## КНІГАПІС




В. БЛАКІТ. Шануй імя сваё. Аповесці. На рускай мове. М., «Советский писатель», 1988.

**Аповесці Валянціна Блакіта «Усмешка фартуны», «Адчай», «Шануй імя сваё», перакладзеныя на рускую мову І. Сяргеевай і Т. Залатухінай, пабудаваны на матэрыяле сучаснасці. Пісьменніка цікавяць неардынарныя людзі, раскрываючы ўнутраны свет якіх, ён імкнецца да абагульненняў, узнімае надзённыя праблемы рэчаіснасці.**




С. ГАЎРУСЕЎ. Званы нябёс. Вершы і паэмы. Мінск. «Мастацкая літаратура», 1988.

**«Званы нябёс» — кніга выбраных твораў вядомага паэта, які заўчасна пайшоў з жыцця. У яе ўвайшлі лепшыя творы Сцяпана Гаўрусёва, а таксама паэмы «Штодзённы лістапад» і «Профіль веку» — творы, што зместам сваім закранаюць падзеі мінулай вайны і сучаснасці.**




Г. КАРЖАНЕЎСКАЯ. Вечны водгук. Вершы і паэма. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1988.

**Паэма «Рэтушоры» (дарэчы, у свой час друкавалася на старонках «ЛіМа») і новыя вершы склалі чарговую кнігу Галіны Каржанеўскай «Вечны водгук». Лірычная гераіня зборніка, як гаворыцца ў выдавецкай анатацыі, «наша сучасніца, працаўніца, маці. Яна вылучаецца цэльнасцю характару, актыўнай жыццёвай пазіцыяй, абвостраным пачуццём справядлівасці і душэўнай чысціні». Дзень учарашні і сённяшні ў творах паэтэсы арганічна павязаны між сабой. Пра што б ні пісала Г. Каржанеўская, яна імкнецца дайсці да першаасновы такіх паняццяў, як дабро, праўда, справядлівасць, каханне.**

**Раіса БАРАВІКОВА:**

# «...ВЯДОМА Ж, ДЛЯ ЖЫЦЦЯ!»

**ЧЫТАЮЧЫ КНІГІ РАВЕСНІКА**

НАЎРАД ЦІ МОЖНА гэтыя нататкі назваць звычайнай рэцэнзіяй-водгукам на кніжку паэта, ды і не на адну (амаль адначасова з кнігай Пятра Кошаля «Рака Жыццё», выдадзенай у выдавецтве «Мастацкая літаратура», выйшла кніга і ў «Савецкім пісьменніку» — «Такі, як ёсць»). Гэта, хутчэй за ўсё, роздум, выкліканы тым ці іншым вершам або нават радком; роздум, які тычыцца лёсу цэлага пакалення, што прыйшло ў літаратуру на пачатку 70-ых гадоў. Што гэта былі за гады? Калі коратка — ужо глыбока завалодаў грамадствам так званы час застою, «эпоха крывадушнасці і паказной дабрадзейнасці», эпоха пасаднага свербу і ашуканскай парадднасці, калі гучны лозунг падмяняў разумны сэнс жыцця. Ці не пра гэта і гаворыць П. Кошаль у радках:

**Слышится Москва из репродуктора:**
**два микрорайона новых выросли.**
**Там, видать, взялись,**
**нет шуму дутого...**
**Как у нас — и сжали все, и вывезли.**

Не магу не ўспомніць сустрэчу першага сакратара праўлення СП СССР Уладзіміра Карпава з маладымі літаратарамі Масквы, якую аднойчы, ужо даўнавата, паказвала Цэнтральнае тэлебачанне. Прызнаюся, трошкі было не па сабе, слухаючы сваіх равеснікаў, апранутых у штонікі маладых. Пакаленне сённяшніх саракагадовых было маладым на пачатку сямідзесятых, але, за рэдкім выключэннем, яно засталося ім і ў канцы васьмідзесятых. Тут да месца будзе працытаваць некалькі строф з іранічнага верша П. Кошаля «Кацельніцкая набярэжная»:

**Я просыпаюсь поутру,**
**иду во двор гулять с собакой,**
**а там гуляет Евтушенко.**

**Я просыпаюсь ввечеру,**
**иду во двор гулять с собакой,**
**а там гуляет Вознесенский.**

**Поэтами я окружен,**
**и, как заметил С. Чупринин**
**в недавней «Комсомольской правде»,**
**я тоже в общем-то поэт.**

**Да вот собака не моя,**
**нет в доме денег ни копейки,**
**жена от бешенства бледна,**
**и мать не пишет из деревни...**

Асаблівага каментарыя радкі не патрабуюць, нагадаю толькі адно, што слову «застой» тлумачальны слоўнік дае вельмі кароткае тлумачэнне: адсутнасць руху, нерухомасць. Нібыта перапынілася літаратурнае жыццё, правеўшы мяжу: па адзін бок даўно вядомыя, высока ўшанаваныя імёны, па другі — агульны літаратурны паток. І хто зможа вызначыць, што ў гэтым патоку сапраўды таленавітае, высокамастацкае, вартае ўвагі, *што не! Пра саракагадовых* ужо некаторыя гавораць як пра пакаленне, якое ў нечым не адбылося, маўляў, не прыцягнулі да сябе шырокай чытацкай увагі. Другія, увогуле, называюць «пакаленнем падманутых». Маю на ўвазе тое, што менавіта пра нас некалі з высокіх трыбун гаварылася як пра пакаленне, якое будзе жыць пры камунізме. Наконт «падманутых» хачу паспрачацца. Гледзячы ў чым? Падмануць — не падмануцца. Звярнуся да П. Кошаля, да яго філасофскага верша «Палёт»:

**Летят по небу серафимы.**
**Летят заместо журавлей.**
**Твоих ночей кромешных мимо.**
**Потухшей лампочки твоей...**

Гэта ж пра «неба ідэалу», якое, дарэчы, размывалася і размывалася паўсюдна. Не *помню ўжо хто, але на той самай сустрэчы з У. Карпавым нехта з прысутных сказаў, што якраз нашаму пакаленню найцяжэй выношваць ідэал у душы. З ідэалам не нараджаюцца, ён вырастае з жыцця. Так, мы яшчэ не паспелі як след адкрыць для сябе свет, як быў развенчаны культ асобы Сталіна, мы толькі пачалі ўсведамляць сябе, як гэтая хрушчоўская ідэя таксама была развенчана, за імі ішлі тыя два дзесяцігоддзі, якія мы развенчваем зараз. Карціна сумная. І ўсё ж... Можна падмануць у ідэі, але нельга падмануцца ва ўласнай душы. Не жыццё фарміруе паэта, а сам ён фарміруе сябе, скажа П. Кошаль у адным з вершаў. А была ж арыентацыя на адваротнае — на ўсхваленне жыцця, дзе нярэдка распад называўся росквітам, калі тое, што завецца паэзіяй, увачавідкі ператваралася ў звонкую кан'юнктуру, за якую плаціліся і пасадамі, і ўзнагародамі, і ўвагай. Чытач жа таксама са школы выхоўваўся на тытульных адносінах да літаратуры: чым большы тытул, тым лепшы твор. Нібыта пісьменнік, які ўшанаваны тытуламі, не можа напісаць дрэнная кніжкі. Можа, ды і не адну. Ці ж не тая самая кан'юнктура стварыла кніжныя залежы, сярод якіх цяпер і да добрай кніжкі цяжка дайсці. Ды ўсяго не перачытаеш. Таму і чытач нярэдка арыентуецца не столькі на паэзію, колькі на «шум» вакол імя, на былыя заслугі пісьменніка. Культ асобы Сталіна даў пачатак маленькім кульцікам адміністрацыі. І калі першы быў развенчаны, дык гэта не азначае, што быў развенчаны і культ адміністрацыйнага апарату, культ пасады.

Дзіўная рэч: чым большым было жаданне ў літаратуры паказаць станоўчага героя, тым больш адмоўнага нараджалася ў жыцці. Вось лірычны верш П. Кошаля «Песня», дзе ў зажураны *настрой першай страфы* — «На родине Якуба Коласа прошли тяжелые дожди. Напой мне, милая, вполголоса о том, что будет впереди», — уплятаецца, а дакладней, выплятаецца з рэчаіснасці цень гогалеўскіх герояў у сучасным варыянце.

**Дымя махрой над черным Неманом,**
**не *соблюдая* должных мер,**
**процеживает воду неводом**
**с похмелья жуткий браконьер.**

І ён, гэты «жуткий браконьер», не адзіны з тых вобразаў, за якімі падчас хаваецца трагедыя грамадства. Сярод радкоў іншых вершаў сустракаецца і «самый главный спекулянт района», і «ошметок целинного края» з чацвярцінкай у кішэні, і той, хто «романы издает, в свету чиновничьих погон, как соловей поет»... Даволі прыкладаў, каб гаварыць пра бездухоўнасць там, дзе жыццё дзеля «жывата», а не дзеля духу.

**Икру мешками тащат про запас,**
**а очередь за связками колбас —**
**как будто наступил последний час**
**и завтра продавать уже не станут.**
**Да что вы в самом деле, ведь и нас**
**к ответу призовут, и трубы грянут!**
**И кто-то спросит: «Ты за чем стоял,**
**какой ты пищи, миленький, алкал?**
**Неужто же такой ты был голодный?»**
**И что тут скажешь? Годы просвистал.**

**«За колбасой» — ответить? Неудобно.**
**(«Адказ»).**

Нашы шматлікія чэргі — бяда грамадства, і між радкамі верша міжволі чытаеш: а дзе ж чэргі за кніжкамі? Паэзія заўсёды служыла высокаму духу, наталяла душу і праз споведзь паэта раскрывала яе глыбіні ад самых пакутных перажыванняў да акрыляючых парываў, якія спальваюць і адраджаюць чалавечае сэрца. Яна, паэзія, нібыта выпадае з поля зроку чытача, чалавека. Гэта пра яго П. Кошаль скажа ў вершы «Пошук»:

**Тревожны дни, слагаясь четко в век,**
**а век летален, воспален, неистов.**
**и посреди, доискиваясь смысла,**
**шарашится незрячий человек.**

**Опомнится. Закурит и пойдет.**
**Куда, куда? А черт его поймет!**
**Хотя не так он, в общем, и незряч,**
**он соткан из удач и неудач,**
**ему бы жизни,**
**вспыхнувшей, как пламя!**

**И вот он ловит слабыми руками**
**безумие космических задач,**
**и все это — годами и веками...**

Гучныя лозунгі застойных часоў вымагалі і гучных задач. Задачы не заўсёды пацвярджаліся справамі, гэта сеяла раўнадушша, абыякавасць, спрыяла адгароджанасці, замыканню ў коле сваіх дробных інтарэсаў. Не кожны мог прыстасавацца да такога рэжыму, магчыма, таму столькі драм, трагедый, асабліва сярод моладзі: «Ночь потихонечку тает, месяц — как ржавое лезвие. Здесь Калиновская Таня вены себе перерезала...» Другі верш заканчваецца страфою: «Ничего не скажу о себе, потому что и вымолвить нечего. Отчего мы такие увечные, отчего мы такие увечные?» Пытанне адрасуецца равеснікам, і ніяцкая знайсці адказ на яго: калі нешта не ладзіцца ў грамадстве, няма ладу і ў адной душы, дзе *многа болю, многа холаду*, многа адзіноты. «А трудно остаться самим собой, лишь кажется: вот он — ты. А это кто-то совсем другой напялил твои черты...» А хіба гэта не боль: «Где нежность былая, Мария? Листвою опала. Куда-то пропала, не плакала и не стенала. Обыденным грузом повисли на шее заботы, и где они, годы — шумящие быстрые воды?»

Чытача доўгія гады прывучалі да літаратуры выверана-правільнай, у паэзіі — да прыглажанага радка, да пэўнага кола тэм, да вершаў, якія не закранаюць псіхалогіі чалавека, а як цвікі забіваліся ў сацыяльна-вызначаную канву. Стваравўся стэрэатып у паэзіі, і недзе ў глыбіні душы я вельмі задаволена, што гэты стэрэатып у найменшай ступені закрануў цяперашніх саракагадовых, якія ўсё бліжэй і бліжэй падступаліся да асобы, да ўнутранага «я», імкнучыся зазірнуць у сутнасць прыроды чалавека:

**Кто я?**
**Падающая звезда**
**или ветер, во тьме летящий?**
**Кто я? Шорох в полночной чаще**
**или шумные города?**

Без гэтага пытання нельга ўвайсці ў жыццё, яно не ад разгубленасці перад светам, а ад жадання стварыць свет, каб не стаць бязвольным прадуктам часу. Чалавек здольны на аддачу, калі ён цалкам усвядоміць: хто ён ёсць, які шлях перад ім. Цяжка вызначыць канчатковы вынік гэтага шляху, але чалавеку даецца вера: «Путь-дороженька, стань же опорой, не порвись тонкой ниткой вдали, просквози по холодным просторам светлой жилкой славянской земли».

Узяўшы за аснову сваіх разважанняў кнігі Пятра Кошаля, не магу не ўспомніць, як яшчэ на пачатку сямідзесятых, недзе праз год пасля заканчэння літінстытута, запыталася ў некага з былых аднакурснікаў пра інстытут, пра найбольш цікавыя імёны ў ім, і пачула ў адказ цвёрдае, несумненнае: Пётр Кошаль!

Прайшло ледзь не два дзесяцігоддзі, паэт выдаў не адну кнігу паэзіі, і гэта заўсёды — адкрыццё, чысты, глыбокі голас, на які не можа не адгукнуцца душа. З верша ў верш бачым у радках жыццё — салодкае і балючае, трывожнае і радаснае ў яго штодзённай плыні. Хачу сказаць яшчэ і пра тое, што радзіма Пятра Кошаля — Беларусь. Зрэшты, гэта можна адчуць і па многіх вершах. «В белорусской хате три вдовы седые, три вдовы седые песню затевают», — чытаеш у адным з іх, а ў другім паэт скажа: «Но в белорусской августовской деревне, превозмогая летнюю лень, кричат, пастуха подымая, певни, и начинается день...» Сустракаецца ў вершах і «слуцкий медленный рассвет», і «хатынский ветер», і назвы беларускіх вёсак, і «цвета белорусской осени: желтый, лиловый, красный», і чайкі, якія кружацца над Бугам, «не уставая кричать»... — гэта ўсё яднае, звязвае паэта з зямлёй, дзе пачынаюцца творчы шлях. Блізкая паэту і беларуская паэзія, ён многа перакладае і класіку, і сучасную літаратуру. Дзякуючы яму ўсесаюзны чытач змог пазнаёміцца з творчасцю не аднаго нашага паэта.

Напэўна, у сваіх нататках я раскрыла толькі некаторыя адценні паэзіі П. Кошаля. Але, думаецца, што тыя строфы, якія цытаваліся мною, дазволяць чытачу пазнаць паэта, душа якога няспынна працуе не дзеля пустой «работы пяра», а як сказаў П. Кошаль у адным са сваіх вершаў, **«конечно же, для жизни!»**

ЧЫТАЮЧЫ ЧАСОПІСЫ

# З ТАЛЕНТАМ НАРАДЖАЮЦЦА

**Першая аповесць Уладзіміра КАРАТКЕВІЧА**

АДВАНДРАВАЎ па блакітных рэках, па шырокіх гасцінцах, па ледзь прыкметных утравелых ці топкіх сцежках вялікі жыццялюб-пісьменнік. Пакінуў свой край, якому адшукаў прыгожае паэтычнае азначэнне — «зямля пад белымі крыламі» — ў яшчэ не шаноўным узросце. З часу смерці Уладзіміра Караткевіча прайшло ўжо чатыры гады, і першапачатковае балючае і вострае адчуванне страты павінна было перарасці ў сумную разважлівасць, якая неяк урэшце мірыць нас з тым, што смерць забірае добрых людзей. Але ж... Колькі б ён, жывы і ўдумлівы, змог яшчэ зрабіць у справе абуджэння гістарычнай памяці і пачуцця нацыянальнай годнасці, адраджэння роднай мовы і культуры!..

Аднак шкадуючы таго, чаго, на вялікі жаль, ужо не будзе, з радасцю думаеш: Караткевіч працуе і сёння. Чытаюцца, як і дваццаць, дзесяць гадоў назад, яго «Каласы пад сярпом тваім» і «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», яго проза, паэзія, драматургія, публіцыстыка. Некаторыя творы вяртаюцца з архіўнага небыцця.

Прызнаюся, у мяне не адназначнае стаўленне да спадчыны, да таго, што друкуюць сваякі і блізкія, радзей даследчыкі літаратуры пасля смерці пісьменніка. Безумоўна, мэта, якой кіруюцца гэтыя людзі, самая добрая, нават святая: тут і даніна памяці дарагому чалавеку, і імкненне шырэй расказаць пра зробленае ім, перадуманае. Але ж, пагодзімся, такія з'явы, як «Паэма тугі» А. Бачылы, як «Аповесць для сябе» Б. Мікуліча, вершы Л. Геніюш, сустракаюцца нячаста. Звычайна з'яўляецца намнога слабейшае за тое, што ведаем па прыжыццёвых публікацыях пісьменніка. Пры ўсёй павазе да чалавека і разуменні сітуацыі чытаць творы часам бывае ніякавата. Памятаеце, радкі класіка, якія прыплылі ў сонную свядомасць героя аповесці Р. Семашкевіча «Бацька ў калаўроце», на цэлы дзень забраўшы спакой у будучага даследчыка літаратуры? «Заклінаю розных літаратурных далакопаў не шукаць і не друкаваць маіх вершаў і апавяданняў, якія параскіданы па розных газетах і часопісах...» Відаць, калі нешта пісьменнік не друкаваў ці не перадрукоўваў, то на гэта меліся прычыны...

Здаецца, аўтар «Палешука», «Маленькай балерыны», «У снягах драмае вясна» («Полымя», № 5) таксама не рабіў спроб і захадаў, каб апавяданні і аповесць дайшлі да чытача. Аднак прычыны ў даным выпадку іншыя, чым адчуванне мастацкай недасканаласці твораў, патрабавальнасць да сябе.

Аповесць пісалася, калі распачаты працэс дэмакратызацыі грамадскага жыцця поўніў сэрцы людзей верай у лепшае. Гэта вера адчуваецца і ў творы У. Караткевіча. Пісьменнік заканчвае яго вельмі аптымістычнай нотай: «Сколькі светлага абяцаюць снягі! Мо таму, што сэрца пасля доўгай, чатырохгадовай зімы адтайвае, пускае парасткі новага кахання, знішчае апошні на зямлі след старога?

...Коні беглі шпарка!

Рукі былі моцнымі, грудзі вольна дыхалі.

І ўсё-ўсё жыццё яшчэ было ў будучым.

У снягах драмала вясна». Аднак ў тым жа, 1957 годзе, калі У. Караткевіч шукаў словы і фарбы для свайго першага вялікага празаічнага твора, аршанская раённая газета арганізавала шумную кампанію супраць маладога пісьменніка, убачыўшы ў яго вершах «несугучнасць багатым падзеям, што адбываюцца вакол», і недахоп «бадзёрасці». Аўтар перажыў тое ж, што і яго герой Берасневіч на камсамольскім сходзе: бессаромна перакручваліся думкі і словы, ставіліся пад сумненне самыя шчырыя жаданні і памкненні. Уласны горкі вопыт дапоўніўся вопытам іншых пісьменнікаў — А. Макаёнка, А. Кулакоўскага, І. Чыгрынава, крыху пазней В. Быкава. У. Караткевіч не мог не зразумець, што час для яго аповесці прыйдзе не хутка. Падобнае здарылася таксама з апавяданнямі.

Думаю, аповесць «У снягах драмае вясна» чытаецца не толькі таму, што належыць пяру прызнанага майстра прозы. Хоць тут, безумоўна, многае, што раскрыецца ў больш позніх творах, яшчэ ў зародку.

Згадаем сумнае прызнанне маладога Караткевіча: «Т. Вялюгін кажа пра маю кепскую мову. Я сам гэта ведаю, але ж скуль мне яе ўзяць, добрую мову? Я выжываю памылкі, але проста з крывёю. Орша адносна мовы наогул не запаветная зямля. Там шмат русіцызмаў, там блытаюць канчаткі роднага і, часам, меснага склону і г. д. Да таго ж і сям'я...» Ад сябе дадам: і лёс, які ў раннія гады вёў будучага пісьменніка далёкімі ад роднай зямлі дарогамі. Сталы У. Караткевіч — вольны і нязмушаны ў паказе людзей, іх паводзін, учынкаў, мудры даследчык жыцця, тонкі знаўца законаў стварэння мастацкага вобраза. У яго творах ужо не знойдзеш, каб вось так адразу, «у лоб», падаваліся аж два героі. «Цэнтрам увагі стаў памалу Янка. Круталобы, вельмі сухарлявы, ён меў талент вялікага коміка і мог лёгка імправізаваць вершы. Твар яго, жывы і рухавы, мяняўся на вачах, і кожны выраз яго прымушаў смяяцца.

Смяяліся ўсе, толькі Паўлюк сядзеў, апусціўшы галаву. Ён наогул рэдка смяяўся, гэты Паўлюк, хіба што ў кутках рота з'яўляліся дзве коскі, і тады ўсё можна было аддаць у адказ на гэтую мілую, трошкі вінаватую ўхмылку. Ён быў моцны, хаця тонкі, але фігура яго чамусьці пакідала ўражанне вытанчанай, прыгожай кволасці. На стройнай шыі сядзела галава, з якой нават лепшаму мастаку не сорамна было б пісаць партрэт. Бровы чорныя, рэзкія, чысты лоб перарэзаны ад пераносся зморшчынкаю. І вочы, вочы былі надзвычайныя, цёмныя і прыгожыя, як у каровы». Для першага знаёмства з героямі тут відавочны лішак «характарыстычнай» інфармацыі, што мала спрыяе запамінанню яе.

Тым не менш аповесць напісана КАРАТКЕВІЧАМ. Толькі зусім яшчэ маладым. Апошняе, няхай гэта не гучыць дзіўна, мае і свае перавагі: маладосць сама сабой каштоўная і прыгожая як у жыцці, так і ў творчасці. Вось толькі далёка не кожнаму аўтару ўдаецца быць маладым, нават калі ён пачынае рана пісаць і друкавацца. Караткевічу, несумненна, удалося. Непаўторнае адчуванне маладосці, звязаныя з ёю своеасаблівая акрыленасць душы, чысціня, непасрэднасць, цнатлівасць жывуць у кожным радку ранніх твораў пісьменніка.

Удалося У. Караткевічу і іншае. Тое, з-за чаго напісаная тры дзесяцігоддзі назад аповесць не здаецца мастацкім сведчаннем падзей даўно адшумелых і перажытых.

У невялічкай прадмове (ці то рэдакцыі часопіса, ці то аўтара публікацыі Н. С. Кучкоўскай) гаворыцца: «Створаная сумленным, мудрым і высакародным талентам, прасякнутая мужнай верай у перамогу праўды і справядлівасці, аповесць «У снягах драмае вясна» асабліва актуальна гучыць сёння, у час перабудовы». Сапраўды, гледзячы ў 50-ыя, мы бачым нашы 80-ыя гады. І не толькі іх.

«...Вось я думаю. Нашто гэта нас трымаюць за руку, даюць кнігі «адсюль-дасюль», каб, крый божа, не сапсаваліся, не адкусілі мы ад гэтага Бадлера, ад Андрэева. Толькі і чуеш: «Рэакцыянер Дастаеўскі», «буржуа Гамсун»... Дакажыце ж... на прыкладах, на творчасці, а не голым словам. Голае слова мала важыць», — дзеліцца сумненнямі галоўны герой аповесці Уладзіслаў Берасневіч. Што ж, да зусім нядаўняга часу мяняліся толькі прозвішчы «рэакцыйных», «буржуазных» ці «нацыяналістычных» пісьменнікаў, праблема заставалася. Далей. «Скажам, былі здраднікі, але як можа адзін народ быць горшым за другі, што яго бяруць за шкірку, як шчанюка, і вывозяць з месца, дзе ён жыў, дзе нарадзіліся яго дзеці, дзе ён прызвычаіўся, дзе капцы бацькоў?.. Або вось яшчэ, метады выхавання. Зрабіў чалавек няпэўны крок — не вораг, наш чалавек. Заблытаўся трошкі. І тут адразу бюро, пярун з яснага неба, папярэджанне, выключэнне. Нашто гэта? Мне здаецца, трэба растлумачыць, пераканаць, зрабіць з таго, хто аступіўся, карыснага чалавека. А аступаюцца людзі разумныя...», — такія пытанні хвалююць герояў аповесці. Але ж і для нас, сучасных людзей, яны надзённыя і вострыя. Сёння многае, што замінала раней, зрушана, аднак дэфіцыт даверу да асобнага чалавека, да народа ў цэлым пакуль што адчувальны. Задумваюцца героі У. Караткевіча і над тым, што такое патрыятызм і чаму «некаторыя, ледзь пахваліш сваё, пачынаюць гвалт крычаць». Таксама гарачае пытанне нашага часу. Вунь ужо не толькі беларусаў, украінцаў (тут была, бадай, свайго роду «традыцыя»), а і рускіх пісьменнікаў Распуціна, Бялова, Астаф'ева, якія загаварылі пра страшную пагрозу манкурства, гістарычнага бяспамяцтва для свайго народа, абвінавачваюць у нацыяналізме і іншых падобных грахах. На шляху берасневічаў, якія жадаюць самастойна ва ўсім разабрацца і таму не заўсёды пагаджаюцца з агульнапрынятай думкай, нязменна паўстаюць лоўкія дэмагогі — маркічы. У аповесці за галоўнага героя ўступіліся сябры, старэйшыя таварышы, яго не выключылі з камсамола і інстытута. Але поўнай перамогі над Маркічам Берасневіч на сходзе атрымаць не змог. Якім бы ты ні быў чыстым, а калі абляпалі гразёю, адразу не адмыешся. Спатрэбіцца час, сілы, нервы, і гэта, бадай, самае страшнае. Вымова, разрыў з каханай, ад'езд, па сутнасці, уцёкі (ад непаразумення, нагавораў, няшчырасці) у глухую вёсачку, і, вядома, расчараванасць, адчай, ад чаго ратавалі толькі праца і вера ў справядлівасць — так заплаціў студэнт Берасневіч за імкненне да самастойнасці і незалежнасці.

У творы ёсць ёмкі вобраз: «марцавы санеты», халады пасля ранняга несвоечасовага цяпла. Наўрад ці мог пісьменнік у 1957 годзе прадбачыць, як павернуцца падзеі праз некаторы час, што «пацяпленне» ў грамадскай атмасферы будзе нядоўгім. Але адбылося менавіта так. І сёння «марцавы санеты» ў аповесці ўспрымаюцца як шырокае абагульненне, праецыруюцца не толькі на лёс героя, а і на жыццё краіны ў цэлым.

Актуальнасць, грамадзянскасць, выразная гуманістычная скіраванасць, безумоўна, моцныя якасці аповесці «У снягах драмае вясна». Разам з тым нельга абмінуць і іншае, без чаго, думаецца, творы У. Караткевіча ў такой ступені не падкуплялі б нас. Яго любімых герояў. Назаву іх так, бо дапасаваць да Берасневіча, Алёнкі, Паўлюка, Жэнькі застылае без паху і колеру азначэнне «станоўчыя» немагчыма. Якія яны прыгожыя, чыстыя, светлыя, высакародныя! З'яднаныя сапраўдным сяброўствам, вялікім каханнем!

Свет любімых герояў Караткевіча, як і яны самі, ідэалізаваны. Аднак тут не той выпадак ідэалізацыі, калі герой у сваёй стопрацэнтнай станоўчасці, правільнасці, праведнасці губляе жывыя чалавечыя рысы. Пісьменнік умее прыўзняць героя, надзяліўшы самым добрым і прыгожым, што можна адкрыць у чалавеку, і разам з тым не адарваць яго ад зямлі. Гэта асаблівасць таленту У. Караткевіча выразна выявілася ўжо ў першай аповесці. Аўтар любіць Берасневіча і яго сяброў, але нідзе не дазваляе сабе захапляцца імі. Не зрабіць з героя «хадзячы прыклад» прыстойнасці, не ператварыць сур'ёзнае ў сумнае, чыстае ў дыстыляванае і нежывое дапамагае пісьменніку яго ўсмешлівасць, мяккая іронія (з'ява, трэба сказаць, рэдкая ў сучаснай прозе). Вось як, напрыклад, У. Караткевіч, перадае ўнутраны стан закаханых: «І яны ідуць далей такія сур'ёзныя, быццам Аўстралія раптам правалілася ў акіян. Гэта вельмі сур'ёзная справа, калі сутыкнуліся ўпершыню пальцы».

Высакароднасць і чысціня з'яўляюцца наўздзіў натураль-

ЧЫТАЧ ДЗЕЛІЦЦА ЎРАЖАННЕМ

# ВАЧЫМА ДЗЯЦЕЙ

**ШЧЫРА скажу, я заўсёды з хваляваннем бяру ў рукі кнігу, якая вяртае нас да жорсткіх, трагічных і гераічных дзён мінулай вайны. Чаму? Мне пашчасціла нарадзіцца пасля вайны, але я памятаю і акопы, якія яшчэ не паспелі здзірванець, і нішчымніцу пасляваенных гадоў, і дзядзькоў, маіх вяскоўцаў, у якіх смылелі незарубцаваныя раны.**

**А вось гэтую кнігу — кнігу Міколы Чарняўскага «Навечна з сонцам» — я ўзяў у рукі з асаблівым хваляваннем, бо дала мне яе мая вучаніца. Папрасіла: «Аляксей Мікалаевіч, тут тры паэмы. Адну з іх мы хочам інсцэніраваць. Прачытайце, калі ласка. Яна называецца «Шчымлівая зорка».**

**Такая неспадзяванка мяне і ўзрушыла, і абрадавала. Чаму ўзрушыла? Усё-такі, на жаль, нашы дзеці не так часта адклікаюцца на вершаванае слова. А гэтая дзяўчынка прачытала, прапаноўвае, каб прачыталі, пачулі і другія. Значыць, кранула...**

**Тры паэмы, змешчаныя ў кнізе, я прачытаў, як гаворыцца, на адным дыханні. Заваражылі яны мяне сваёй аўтарскаю ўсхваляванасцю, драматызмам і лірызмам. Каб не быць галаслоўным, прывяду радкі — тыя, што, як кажуць, першымі трапіліся на вочы:**

**Затуманіўся бераг**
**дняпроўскі —**
**Калыханка яго,**
**Родны свет.**
**І бярозкі, як сёстры, бярозкі**
**Пазіралі пакутліва ўслед.**

**І зязюля нібыта забыла**
**Смерць і гора:**
**Яна, як заўжды,**
**Не змаўкаючы, звонка дарыла,**
**Як надзею, як шчасце, —**
**Гады...**
**(«Навечна з сонцам»).**

**Магчыма, хтосьці з крытыкаў са мною не згодзіцца, скажа: «Захвальваеш». Няхай скажа і так. Тым болей, што апошнім часам стала модна ганіць, а не хваліць. Ды чамусьці ад гэткай «моды» нявесела. Канечне, ёсць усякае, ёсць і прыстасаванцы ў літаратуры. Трэба паказваць іх, называць, выводзіць на чыстую ваду, каб не ганьбілі нашай літаратуры, не заміналі, не перашкаджалі, але толькі не ўводзіць «у моду» ўсё агулам ганіць.**

**Думаю пра дзяўчынку, пра тую, якая прынесла мне кнігу Міколы Чарняўскага «Навечна з сонцам». За шаснаццаць гадоў настаўніцкай работы давялося пабачыць шмат дзіцячых вачэй. І калі я чытаў, расказваў, і калі яны чыталі, расказвалі. У вачах бачыў рознае. І захапленне, і непасрэдную дзіцячую радасць, і сум.**

**Бяру ў рукі стос вучнёўскіх лістоў. Пасля класнага часа, прысвечанага паэме М. Чарняўскага «Шчымлівая зорка», я папрасіў вучняў, каб яны выказалі свае думкі пра другую паэму, якая змешчана ў кнізе, — «Навечна з сонцам». Каб выказалі шчыра, адкрыта.**

**І вось, на мой погляд, адно цікавае выказванне, якое напісала Алена Мялешка: «Мне думаецца, што аўтар паэмы добрасумленны чалавек, адданы сваёй працы».**

**А вось што сказала Света Шляхцюк: «Паэма мне спадабалася за тое, што ў ёй рэальныя факты, што адлюстравана само жыццё».**

**Не магу не пагадзіцца са Светай. Так, само жыццё. І адметнасць, арыгінальнасць усіх**

нымі і ўстойлівымі рысамі характару герояў. Яны ад прыроды надзелены пачуццём высокай чалавечай справядлівасці. Ім і ў галаву не прыйдзе, што можна адседзецца, адмаўчацца, калі на вачах творыцца няправедная справа. Да таго ж для герояў Караткевіча заўсёды істотна, якімі сродкамі дасягаецца мэта. Зброяй праціўніка яны карыстаюцца ў выключных выпадках, калі, каб абараніць справядлівасць, нічога іншага не застаецца. Як, напрыклад, у Янкі. Перад тым, як улічыць Маркіча ў падмане (Маркіч у дакументах паставіў няправільную дату смерці бацькі, каб не паказваць, што той быў арыштаваны ў 37-м), ён называе ўласны ўчынак подласцю, вымушанай подласцю. Але і ў даным выпадку чалавечая прыстойнасць не здраджвае герою. Асуджаючы паклёпніка свайго сябра, Янка гаворыць: «Ты подла зрабіў, Маркіч. Чаму? Можа, жадаў адвесці ўвагу ад сябе, улезці па трупах іншых у царства нябеснае? Не ведаю. Але ведай ты, у нас заўсёды знойдзецца чалавечая літасць, каб падумаць у такіх выпадках, як твой, нягледзячы на тое, што там было з тваім бацькам, быў ён вінаваты ці не: — Няшчасная маці! Няшчасныя дзеці!». Не будзем забывацца, што дзеці «ворагаў народа» ў тыя гады былі на асобым рахунку, і такое стаўленне да «пункта біяграфіі» аднакурсніка сведчыць пра адсутнасць у юнака стэрэатыпаў.

Магчыма, героі У. Караткевіча ўспрымаліся б па-іншаму, калі б падобныя да іх часцей прыходзілі ў сучасную прозу. Я не за тое, каб пісаць «пад Караткевіча»! Аднак павучыцца ў яго чысціні і высакароднасці ў поглядах на свет і чалавека, думаю, не пашкодзіла б многім, асабліва маладзейшым пісьменнікам. Бо надта ўжо часта — за прыстойнымі паводзінамі, за мукамі незасынаючага сумлення, гарачай устурбаванасцю сусветнымі праблемамі спрытна ўладкоўваецца звычайны эгаіст і самалюбца, заклапочаны захаваннем уласнага душэўнага камфорту мешчанін. Аўтар жа ад свайго героя ў сляпым захапленні. Але гэта мімаходзь і толькі таму, што ў святле аповесці «У снягах драмае вясна» вельмі кінулася ў вочы...

Год назад мяне радасна ўразілі лісты У. Караткевіча да Максіма Танка, надрукаваныя «Маладосцю», затым «Маленькая балерына». Малады пісьменнік нязвыкла для маладых шырока і глыбока мысліў, з сапраўднай мастакоўскай смеласцю дакрануўся да балючага нядаўняга мінулага. Аповесць «У снягах драмае вясна» таксама здольна здзівіць — сталасцю думкі, значнасцю ўзноўленага аўтарам сацыяльнага канфлікту. Аднак ці трэба здзіўляцца? Ці мог малады Караткевіч, з якім толькі сёння адбываецца сапраўднае знаёмства, быць іншым? Гады прынасяць вопыт, майстэрства, мудрасць. З талентам нараджаюцца.

**Таіса ГРАМАДЧАНКА.**

---

**твораў, змешчаных у кнізе, выяўляецца ў тым, што Мікола Чарняўскі часам перапыняе вершаваную плынь, дапаўняючы іх успамінамі блізкіх і родных герояў, уключае вытрымкі з газет, звесткі з энцыклапедыі.**

**А вось што напісала Рая Сіняк: «Аўтару паэмы я хацела б сказаць вялікае дзякуй за тое, што ён помніць героя і расказвае пра яго нам».**

**Хацелася б, каб нашы аўтарытэтныя крытыкі сказалі сваё слова і пра паэму «Сын палка», наогул пра кнігу «Навечна з сонцам». Яна такой увагі вартая.**

**Аляксей ЯКІМОВІЧ,**
**настаўнік Касцянёўскай васьмігадовай школы.**
Слонімскі раён.

---



**Споўнілася 60 гадоў паэту Браніславу Спрынчану, актыўнаму перакладчыку нашай паэзіі на рускую мову.**

**Праўленне Саюза пісьменнікаў БССР накіравала яму прывітальны адрас з пажаданнем добрага здароўя, плённай творчасці.**

**Супрацоўнікі «ЛіМа» таксама зычаць юбіляру ўсяго найлепшага ў жыцці, новых паэтычных твораў і набыткаў на ніве перакладу.**

# У сэрцы — святло любві

ГЭТЫ НЕВЯЛІКІ ВЕРШ, напісаны яшчэ ў 1951 годзе, маладым тады аўтарам, падручным каваля «Гомсельмаша» Браніславам Спрынчанам, бадай, як ніводзін у яго творчасці аўтабіяграфічны:

**Из тихого далекого села,**
**Через кузнечный цех,**
**В широкий свет**
**Моим стихам дорога пролегла.**
**И понял я:**
**На ней покоя нет.**

**Благословенна вечная страда:**
**Кую железо и чеканю стих.**
**Я всей душой поэзию труда**
**У молота кузнечного постиг.**

Няцяжка знайсці ў гэтых, ледзь не першых надрукаваных радках — а выступаць у рэспубліканскай перыёдыцы Б. Спрынчан пачаў з 1950 года — і некаторую нацяжку рыфмы, і пэўную знаёмасць матываў. Але ні ў якім разе нельга забываць, што верш не надуманы, у ім пачуцці, перажыванні маладога чалавека, які нарэшце ступіў на самастойную прафесійную сцяжыну.

Для Б. Спрынчана яна пачалася на вядомым «Гомсельмашы» — пасля заканчэння Кіраваградскага машынабудаўнічага тэхнікума. Развітваючыся з родным сялом Каніж на той жа Кіраваградчыне, ён тады яшчэ не ведаў, што развітанне гэтае назаўсёды, што Беларусь стане для яго другой радзімай. Не ведаў, бо столькі планаў нараджалася. Але пакрысе ўсё ўпэўненей прыходзіла і жаданне самому пісаць, расказваючы пра сяброў-таварышаў па кавальскім цэху, майстрам якога неўзабаве стаў; прыглядаючыся да беларускіх краявідаў, параўноўваючы іх з тымі, што назаўсёды запалі ў сэрца ў родных мясцінах.

Беларусь!.. Гэта паняцце прыйшло ў першыя творы Б. Спрынчана як бы нечакана:

**За рекою —**
**лес полоской**
**узкой,**
**И над ним,**
**зеленым,**
**посмотри! —**
**Алое полотнище зари...**
**Словно флаг державы**
**Белорусской**

Прыйшло, каб прапісацца ў творчасці паэта назаўсёды. І не толькі ў вершах, прысвечаных пэўным падзеям, людзям. І не толькі ў творах, пейзажныя матывы ў якіх становяцца вызначальным момантам для перадачы думак, пачуццяў, перажыванняў сучасніка. У Б. Спрынчана з'явіліся і іншыя вершы. З шырокай этымалагічнай падсветкай. З пранікненнем у духоўныя пачаткі жыцця народа. З жаданнем дакапацца да першаасноў беларускай нацыянальнай культуры. З клопатным імкненнем адчуць спрадвечную нерушавасць дагэтуль чужой яму мовы. «На Полесье», «Другу», «Июль», «Как мята у межи...»... Пра што гэтыя творы, гаварыць не трэба. Дастаткова працытаваць яшчэ адзін з аналагічнага раду, каб адчуць, куды сягае паэтава думка:

**Вяселле,**
**и вясна,**
**и вёска**
**На заветной моей земле,**
**Как ветви на одном стволе,**
**Что к солнцу вскинула березка.**
**Какими токами земли**
**Из глубины веком доселе**
**Вясну,**
**и вёску,**
**и вяселле**
**Какие корни донесли?**

Праўда, гэтыя і падобныя ім вершы напішуцца крыху пазней. Спачатку Б. Спрынчан знаходзіўся толькі ў сілавым прыцяжэнні тэм, вобразаў, падказаных непасрэдна працоўнымі ўражаннямі. Гэта, канечне, у пэўнай меры звужала межы паэтычнага пошуку. З другога ж боку, дазваляла выпрацоўваць свой почырк, не разменьваючы талент на выдумванне, бо шмат уражанняў давала сама рэчаіснасць.

На «перажытнасць» паэзіі Б. Спрынчана звярнуў увагу вядомы савецкі паэт Ілья Сельвінскі, калі, рэцэнзуючы дыпломныя вершы свайго вучня (у 1959 годзе Б. Спрынчан закончыў завочнае аддзяленне Літаратурнага інстытута імя М. Горкага), даваў ім надзіва высокую ацэнку. Майстра паэзіі ў першую чаргу зацікавілі такія вершы, як «В кузнечном», «Последняя смена», «Возвращение», у якіх праз рытміку працоўных будняў паўставаў сам рабочы чалавек, бачыўся ён як асоба, раскрываўся, як характар.

Ацэнка апраўданая, хоць, калі прыгледзецца ўважлівей да тых пачатковых проб пяра (у асноўным дыпломныя вершы з першых зборнікаў Б. Спрынчана «Над кручами Сожа» і «В центральном полете»), можна заўважыць і іншае: бачыцца гладкапіс, адчуванне немагчымасці вырвацца з палону дэкларацыйных заклікаў, што так шкодзілі паэзіі не толькі пасляваеннага часу, а і першай паловы пяцідзесятых гадоў. Нават у адным з лепшых вершаў, названых І. Сельвінскім, «Возвращение» проста рэжа слых такое «суседства»:

**У завода расцвела сирень,**
**Дым из труб плывет**
**по небосводу.**

Сапраўды ўжо: у паэзіі — люстра самога жыцця. Ці трэба асабліва вінаваціць маладога аўтара, які захапіўся «дымом из труб», калі і карыфеі паэзіі гатовы былі складаць цэлыя оды індустрыяльна-дымнаму пейзажу?! Ды гэта не папрок Б. Спрынчану, а жаданне прасачыць, як паступова з паэта, у вершах якога «рабочае пачуццё ўзнікала само сабой, як дыханне» (І. Сельвінскі), нараджаўся творца «шырокага дыяпазону, глыбокай душы і аналітычнай думкі, выражаных у яго вершах аб'ёмна, зрокава, хвалюючы».

А. Лойка ці не першым заўважыў, што і на пачатку творчай дарогі Б. Спрынчан «не быў прывязаны выключна толькі да вытворчай тэматыкі». Якраз гэта прачытваецца ў артыкуле-прадмове да кнігі выбраных твораў Б. Спрынчана «Свет любви», якая толькі што выйшла ў выдавецтве «Мастацкая літаратура».

Зборнік, трэба сказаць, складзены аўтарам вельмі ўважліва і патрабавальна. Вершы, сабраныя ў ім, даюць магчымасць чытачу — асабліва чытачу, які пачне знаёмства з паэзіяй Б. Спрынчана па кнізе «Свет любви» — адчуць адметнасць творчасці аўтара, убачыць яе эвалюцыю. Інакш кажучы, стаць саўдзельнікам таго працэсу, сутнасць якога дакладна вызначыў А. Лойка: «З кожным новым вершам я працягваю адкрываць для сябе Браніслава Спрынчана — у слове, у жыцці. Таму што адкрыццё паэта — заўсёды з працягам».

Да голасу вядомага паэта і навукоўца нельга не прыслухацца. Ёсць у гэтым азначэнні спроба глянуць на паэзію Б. Спрынчана як на з'яву, а паколькі гэта з'ява, дык адразу відавочна, што творчасць яго выходзіць за межы чагосьці ардынарнага.

Магчыма, калі-нікалі ў паэзіі Б. Спрынчана дае аб сабе знаць і рацыяналістычны пачатак, што па-свойму творы «ахаладжвае». Як кажуць, не без гэтага, але колькі ў яго вершаў, у якіх бачна душа глыбокага лірыка, уважлівага да жыцця?! Лірыка, позірку якога падуладны самыя чуйныя змены ў свеце прыроды і ў характары чалавека?! Чытаеш асобныя з іх і такое ўражанне, што з'явіліся яны дзякуючы таленту мастака-графіка. Настолькі зрокава-выразна перададзены лініі, і гэтаксама зрокава-выразна падаецца сам паэтычны малюнак, калі адкрыццё прыходзіць у новым успрыманні ўжо звычайнага, больш таго — звыклага.

У падобным плане напісаны Б. Спрынчанам творы, у якіх перадаецца традыцыйная змена пораў года. Толькі два прыклады:

**Белый иней в дымчатую рань.**
**От него береза белобрыса.**
**Янтарек**
**на ветке барбариса.**
**В колее**
**хрустальной льдинки грань.**
**(«Осень»).**

**Туча —**
**белою куделью.**
**Тополь —**
**как веретено.**
**Целый день метель при деле —**
**Лен пряла на полотно.**
**(«Туча — белою куделью...»).**

А гэта лірыка іншага зместу, я б сказаў, самой душэўнай прасветленасці: «Стоит ли печалиться о былой любви? — ветры возвращаются на круги свои...», «Всплески половодья звонки спозаранку... Вспомнил я сегодня давнюю веснянку...», «В сапогах резиновых я брожу в апреле, где в лесах осиновых веет влажной прелью»... Традыцыйнасць матываў і разам з тым — сваё, тое, што прыходзіць нечакана, калі з'яўляецца патрэба выказацца, падзяліцца з іншымі набалелым.

Падсвядома падыходзіць і тэма тэм — творчасць і звычайнае рамства, талент і абавязак. Іх узаемаадносіны і іх узаемапранікненне. Як сведчанне падобнага роздуму — верш «Павлюку Багриму — кузнецу и поэту». Як пацвярджэнне таго — радкі:

**Могу я сделать лемех**
**и комбайну —**
**Стальную ось,**
**А вот постигнуть тонкой ковки**
**тайну**
**Не привелось...**

Калі прыняць пад увагу, што П. Багрым быў «мастером художественной ковки», дык кавалю Б. Спрынчану ў майстэрстве тут спаборнічаць сапраўды цяжка. Але тайну літаратурнага майстэрства паэт Б. Спрынчан спасцігнуў. І не толькі ў лепшых уласных творах, а і перастварaючы па-руску вершы П. Броўкі, Н. Гілевіча, П. Макаля і многіх іншых паэтаў, дасягнуўшы асаблівага поспеху ў перакладах Максіма Багдановіча...

На чытацкіх сустрэчах, паэтычных вечарах Б. Спрынчан любіць чытаць свой верш «Олень»:

**След волчий на тропе оленьей.**
**В охоте понимая толк,**
**Из поколенья в поколенье**
**Преследует оленя волк.**

. . . . . . . . . . .

**Не бог, а бег творил оленя,**
**Но видит бог, что вышел толк.**
**А в том, что нет в олене**
**лени,**
**Повинен все же серый волк.**

Праз прытчавасць гэтага твора выразна праступае думка аб тым, што толькі ў пераадоленні пэўных цяжкасцей дасягаецца значны поспех. Думка не такая і новая, ды пададзена Б. Спрынчанам арыгінальна, увасоблена ў самастойны сюжэт. Так і сапраўдная паэзія — заўсёды пераадоленне нечага ранейшага.

Эпіграфам да свайго аднатомніка Б. Спрынчан узяў радкі:

**Все, что кануло в теченье лет,**
**Не вернется,**
**сколько ни зови.**
**В сердце остается только свет —**
**Свет любви.**

Любоўю і напоўнена ўся яго паэзія. Любоўю да слова, літаратуры. Любоўю да роднай яму Беларусі.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

---

# «НІВА» Ў БЕЛАРУСІ

**Як працуюць, вучацца, адпачываюць беларусы, якія жывуць у Польскай Народнай Рэспубліцы? Аб чым яны мараць? Які іх уклад у працэс перабудовы польскага грамадства? На гэтыя і мноства іншых пытанняў дае адказы газета «Ніва», якая выдаецца на беларускай мове ў Беластоку.**

**«Ніва» і раней прыцягвала ўвагу, асабліва тых, хто цікавіцца гісторыяй беларускага народа, яго мовы. Аднак набыць яе было складана. Цяпер паявілася магчымасць задаволіць патрэбнасці большай колькасці людзей. Дасягнута дагаворанасць паміж «Саюздрукам» рэспублікі і галоўным праўленнем Беларускага грамадска-культурнага таварыства, чым органам з'яўляецца «Ніва», аб тым, што колькасць экземпляраў для БССР будзе значна павялічана. Таму ўжо цяпер можна аформіць падпіску на 1989 год. Яе кошт 10 рублёў 40 капеек.**

**«Ніва», якая многа робіць для ўмацавання дружбы паміж беларусамі і палякамі, СССР і ПНР, выходзіць адзін раз у тыдзень палавінным фарматам газеты «Правда». Яе аб'ём — 12 старонак. У першым нумары газеты за гэты год напісана: «Ніва» павінна служыць усім, кожнаму беларусу — і селяніну, і настаўніку, і вучонаму, і студэнту, і школьніку». Тэматыка выдання сапраўды разнастайная. Аб гэтым сведчаць, напрыклад, яе пастаянныя старонкі: «Белавежа» — літаратурная, «Прысутнасць» — студэнцкая, «Зорка» — дзіцячая, «Ніўка» — гумарыстычная. Газета — суарганізатар штогадовага конкурсу «Беларуская песня», мэта якога — папулярызацыя народных і сучасных беларускіх песень у Польшчы, пошук таленавітых выканаўцаў. Цікавыя матэрыялы расказваюць аб стварэнні музея помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху. Самі за сябе гавораць рубрыкі: «Дарогамі гадоў», «Слаўныя людзі Беларусі».**

**Узросшая цікавасць да перамен у савецкім грамадстве, жыцці нашай рэспублікі адбіваецца і на павелічэнні колькасці польскіх падпісчыкаў на беларускую перыёдыку. Папулярнасць у ПНР заваявалі «Голас Радзімы», «Літаратура і мастацтва», «Работніца і сялянка» і іншыя выданні.**

**БЕЛТА.**

## ПАЭЗІЯ

**Алесь ЗВОНАК**



## *Не маюць мёртвыя сараматы...*

Хоць перажыта ўсё ды не забыта,
Шчыміць душа, смыліць пякучы боль —
Не хоча памяць быць з мінулым квітай,
Шукаць суладдзе там, дзе разнабой.

Заплюшчыш вочы: свішча сівер колкі,
Мярцвее бляск *палярнага святла,*
Дранцвее дух і не знікае толькі
Круты замес крыві, пакут і зла.

Што мерцвяку праклён? Хваробе кашаль.
Зірнуўшы ў бездань, цвёрда ўведаў ты:
Зямля адна для катаў і для паўшых —
Не маюць мёртвыя сараматы!

Ледзь адхінеш мінуўшчыны заслону, —
Як чорны прывід трыццаць сёмы год
Жалезнай воляй гоніць эшалоны
На ўсход, на ўсход — без права на
зварот.

Забудзь, навук служыцель, жрэц
мастацтва
Знаходкі ісцін, пошукі святла,
Мудруй, у пекле як жывым застацца,
Падземны ўласнік тачкі і кайла!

Ты з гэтых пор не чалавек, ты лішні,
Няма імя, ёсць нумар у графе.
Так загадаў семінарыст калішні —
Усіх часін вячысты карыфей.

Ды зблытаў мудры з мудрых рай і
пекла —
Усіх спрытном мяла яго мятла...
Пільнуйся духу, каб душа не слепла,
Надзеі іскра ў зрэнках каб жыла!

Пазнай навуку воплескаў пад дулам,
Набудзь умельства катаў услаўляць!
О, колькі ты навекі праглынула,
Халодная калымская зямля!

Сёй-той хацеў бы ўсё забыць,
закрэсліць,
Маўляў, быллём былое парасло,
Маліце бога тыя, што ўваскрэслі,
Даўно ў музеі ступа з памялом!

Я ж не магу! Мне сніцца конскі топат,
Рамантыка геройскай даўніны,
Здань Молатава побач з Рыбентропам,
І гул злавесны страшнай той вайны...

А ці была б яна, калі б Мудрэйшы
Крывёй сыноў Айчыну не заліў,
*Рукой уласнай не прабіў той брэшы,*
Якой задраіць доўга не маглі?!

Сям-там стаяць былыя п'едэсталы,
Іх бог спачыў каля сцяны Крамля.
І не калом, а пухам яму стала
Злачынствам зганьбаваная зямля.

Якія сны былым забойцам сняцца?
Ахвяраў стогн у кіпцях нематы?
У мёртвых немагчыма запытацца, —
Не маюць мёртвыя сараматы!

## *Сказ пра Глыбіна Мікіту*

На ускраіне далёкай,
Дзе канчаецца Усход,
У кагось хапіла клёку
Не пусціць нас у расход.

Нас адзінствам спалучыла
Усеўладная рука
У высокім званні-чыне:
Ён зэка і я зэка!

Біяграфія: на волі
Ён, каморнік, дзень пры дні
Мераў гоні, мераў поле,
Не махлярыў, не маніў,

Не ўжываў гарэлкі, брагі,
Не нашкодзіў анідзе...
Ухапілі бедалагу
У райаддзел НКВД.

Ты, маўляў, не псуй нам нервы,
Прызнавай віну, брыда,
Ты каму зямлю адмераў?
І каму хацеў прадаць?

Не знайшлі, аднак, з ім зладу,
Не паддаўся на падвох;
Прыпісаць хацелі здраду,
Прыпісалі КРД.*

Пра сябе скажу: Гулагу
Да скanання «ўдзячны» я:
Па жыцці прайшла зігзагам
Біяграфія мая!

Так ці гэтак, адным словам,
Я шукаў чаго няма:
Калідорам навуковым
Год ці два аддаў дарма.
Што адкрыць маглі мы самі,
Калі з нейкіх слаўных пор
Бацька ўсіх навук над намі
Длані мудрасці прасцёр?!

Ну, а тых, што глоткі дралі,
Хто ўслаўляў Правадыра?
Тых? Таксама густа бралі,
Не памог ім той харал...

Так ці йначай, жарты жартам,
Кропка ставіцца ўсяму:
За характар свой упарты
Трапіў я на Калыму!

Фармуляр мой быў не марна
Прапісяжаны наўскос:
Гэта значыць, каляндарна,
Да званка каб вёз свой воз!

Што ж? Раз кінуў лёс пальчатку,
Падбяры яе хутчэй...
Там сустрэўся з тым, спачатку
Пра каго павёў свой рэй...
Як ні смешна, ні пацешна,
Разам трапілі ў «эдэм»,
Ён — Пілсудскага прыспешнік,
Я — «нявыкрыты нацдэм»!

(Мне няўцямна, што дакорам
Было слова дэмакрат.
Ганарыцца ім упору
Нам сягоння акурат!)

Нас абодвух доля злая
У тайзе глухой звяла:
Экспедыцыя такая
Занараджана была.

Ён — тапограф і маркшэйдэр,
Я — прараб разведработ,
Пракладалі ў глуш мы рэйды
Дзе пасуху, дзе ўброд.

Там пад халаджавым небам,
Хараством скаваўшы зрок,
Плюскатала рэчка Дэбін,
Калымы сівой прыток.

* КРД — контррэвалюцыйная дзейнасць. Пасля прыняцця так званай «Сталінскай канстытуцыі» ў 1936 годзе, якая гарантавала разгляд спраў грамадзян у адкрытых судах, былі створаны розныя «тройкі», «асобныя нарады» і г. д., якія выносілі прысуды без суда і давалі не артыкулы Кодэксу, а так званыя «літэры»: АСА, КРА, КРД, КРТД, СОЭ, СВЭ і г. д., што азначала: антысавецкая агітацыя, контррэвалюцыйная агітацыя, К.-Р. дзейнасць, К.-Р. трацкісцкая дзейнасць, сацыяльна-шкодны элемент і г. д.

## ПРОЗА



# МАЛЕНЬКІЯ АПАВЯДАННІ

*Мікола Янчанка*

## ГУЗІК

Вясёлы, радасны прыбег я са школы. Тым не менш заклапочаны дзядуля сустрэў мяне сваім звычайным пытаннем:

— Ну як?

— Добра, — кажу, — чыталі, пісалі, задачы рашалі. А на ўроку фізкультуры строем хадзіць вучыліся. Як салдаты. Раз, два, левай! Раз, два, левай! Раз, два, тры! На месцы стой! Раз, два! Кругом! Вольна!

Аднак ні мае словы, ні чаканны крок не зрабілі на дзядулю асаблівага ўражання. Ён выслухаў мяне з нейкім недаверам і звярнуўся з дзіўнай просьбай:

— Спытай, унучак, у сваёй настаўніцы, як вось гэта рэч называецца.

— Гузік! — усклікнуў я.

— Гузік то гузік, — не супакойваўся стары. — Мяне ж цікавіць, як настаўніца яго называе.

— Спытаю, — паабяцаў я, кладучы ў кішэню гузік.

Як і заўсёды, вясёлы, радасны, прыбег я назаўтра са школы. І, як заўсёды, заклапочаны дзядуля сустрэў мяне сваім звычайным пытаннем:

— Ну як?

— Цудоўна! — пахваліўся я. — Чыталі, пісалі, задачы рашалі. А на апошнім уроку спявалі. Ведаеш, якую добрую песню развучылі. Партызанскую:

Ой, бярозы ды сосны,
Мае родныя сёстры,
Ой, шумлівы ты лес малады,
Толькі сэрцам пачую
Гэту песню лясную
Ды ўспомню былыя гады...

І зноў не вельмі кранулі старога ні школьныя навіны, ні партызанская песня. Я абараў яе на паўслове і абыякавым голасам паведаміў:

— А гузік Соф'я Васільеўна гузікам назвала.

Твар дзядулі пасвятлеў:

— Гузікам, кажаш. Гэта добра. Вельмі добра.

— Што ж тут добрага? — здзівіўся я.

— Што добрага? Табе, унучак, цяжка зразумець. А я з-за гэтага гузіка са школы вылецеў. Магчыма, не толькі з-за гузіка...

А так добра ўсё пачыналася. Калі мне споўнілася восем год, адправіў мяне бацька ў школу. Вучыўся я старанна, з ахвотай. Ды нечакана бяда здарылася. Памятаю, у той дзень мы літару «пэ» праходзілі. Выклікала, значыць, мяне настаўніца. Я і пачаў. Бойка так: «Папа, плот, Потап, пуговица...» Побач з гэтым словам гузік намаляваны. Тыцнула настаўніца алоўкам у гузік:

— Что здесь нарисовано?

— Гузік, — кажу.

— Тогда читай еще раз это слово.

— Пуговица, — чытаю.

— Так что же здесь нарисовано?

— Гузік, — кажу.

— Ты что, — ускіпела настаўніца. — Издеваешься надо мной, пень дубовый!

І схапіўшы буквар, пачала лупцаваць мяне па галаве. Заплакаў я ад болю і крыўды і выскачыў з класа. На гэтым і закончылася мая навука.

А наступнай вясной дзед Яўсей узяў мяне ў падпаскі. І маімі класамі сталі лясы ды балоты, а настаўнікамі — камары ды слата асенняя.

— А калі ж ты, дзядуля, газеты чытаць навучыўся? — пацікавіўся я.

— Пазней, унучак, пазней. Пасля рэвалюцыі. Тады пры нашай пачатковай школе вячэрнія курсы па ліквідацыі непісьменнасці адкрылі. Для дарослых. І я пайшоў. Чытаць і пісаць навучыўся...

Дзядуля на хвіліну задумаўся. Потым беражліва ўзяў са стала гузік і ўсміхнуўся:

— Дык значыць, гузік. Тады добра. Добра, што ў вашай школе матчыну мову шануюць.

## ТАТКА ДАЛЁКА

Дзень для Андрэйкі закончыўся гэтак жа няўдала, як і пачаўся. Раніцою маці не ў час ускатурхала. Андрэйка сон сніў. Здаецца, татка яго з Поўначы прыехаў. Падаў яму руку і кажа:

— Ну, Андрэй, наездзіўся я па белым свеце. Грошай кучу зарабіў. Хопіць! Цяпер з табой буду час бавіць. І пасля работы, і ў выхадныя, і ў час водпуску. А ведаеш, з сённяшняга дня і пачнём. Збірайся, брат...

Тут хтосьці тузануў яго за плячо, і татка знік.

— Куды, куды збірацца? — крыкнуў спрасонку Андрэйка.

— У школу. Куды ж яшчэ? — адказала за татку маці і сцягнула коўдру.

Андрэйка ўстаў незадаволены. Еў неахвотна. Думкі яго былі заняты адным: куды ж клікаў яго татка? У жніўні ён пісьмо прыслаў. Жыць да сябе запрашаў. Толькі маці заўпарцілася: «Холадна там». І Андрэйка не згадзіўся. Чаму? Магчыма таму, што ў ліпені пабываў у тых мясцінах. Прыгожыя мясціны! І лес, і рэчка побач. Толькі хлопчыкі надта даймалі. Бывала, паклічуць на рыбалку, а потым з яго слоў пацяшаюцца:

— «Цугун», накапай чарвей.

— «Сянне», патрымай вудачку.

— «Нагамы», замяні ваду ў вядзерцы.

І рыбалка не радуе, і дадому хочацца...

А ў школе Лёшка пачаў надаражацца. Дастаў з кішэні сушанага ёршыка, велічынёй з мізінец і пачаў пастукваць ім па парце.

— Вось. Уласнага ўлову і ўласнага засолу. Гэта што! А ў мінулую суботу мы з таткам вось такога ляшчыну злавілі, — тут Лёшка раскінуў рукі ад адной сцяны да другой. Злавіць то злавілі, ды не ўберагліі: кошка з'ела. Драбяза засталася. Але, як кажуць, малая рыбка, ды смачная хібка. — Ён зноў застукаў ёршыкам па парце і заўважыў: — Калі паб'еш, луска лепей адстае. Ну, здаецца, гатова. Пачнём ласавацца.

Андрэйку не падабаецца гэты маленькі ёршык. Яму падабаецца іншае. Тое, што Лёшка з таткам на рыбалку ездзіць. Хоць бы разок так парыбачыць. Адчуць, як вудзільна ў руках хадуном ходзіць. Так Лёшка гаворыць.

Аднак, каб спыніць пахвальбу Лёшкі, *Андрэйка паведамляе яму і ўсім прысутным:*

— А мне татка пасылку з чырвонай рыбай прышле.

— Ха-ха! — смяецца Лёшка. — Пакуль твой татка прышле, я не адну сотню такіх ёршыкаў з'ем.

Прызнацца, і Андрэйку мала радуе рыба, якую яшчэ прышлюць. Але здавацца ён не хоча. І пачынае гаварыць пра новае:

— А мне мамка ўчора дзве порцыі «маржа» прынесла...

— Ха! Знайшоў чым хваліцца. Вось мы з таткам у нядзелю на арэлях каталіся. Я яго так падкінуў, што прасіцца пачаў.

Хвалько гэты Лёшка. Заўсёды ў яго татка просіцца. І на арэлях, і ў лазні, *калі яго Лёшка бярозавым венікам хвастае.* Прыбаўляе, вядома. І ўсё ж яго радасці куды большыя, чым дзве порцыі марожанага. Андрэйку нават сорамна стала, што такой дробязяю пахваліўся. Таму паспешліва стаў успамінаць што-небудзь больш каштоўнае і значнае, каб неяк уразіць Лёшку. І, здаецца, знайшоў:

— Нічога. Я таксама пакатаюся, — сказаў ён загадкава.

— На чым?

— На «Жыгулях».

— На якіх?

— Якія татка купіць.

— А калі ён купіць?

— Зімою. Грошы заробіць і купіць.

— Ха-ха! Зімою! А мой татка да наступнай суботы тандэм зробіць. Веласіпед на трох колах: два сядзенні, дзве пары педаляў. Сядзем удвух і пакацім. Адзін стоміцца — ногі на руль. Другі круціць. У арэхі, у грыбы будзем ездзіць. Во накатаемся.

І зноў гэта куды лепей, чым будучыя

**ДУМКА ГЛЕДАЧА**

# Яшчэ адна версія

**Опера «АЛЬПІЙСКАЯ БАЛАДА» на тэлеэкране**

Калі я даведалася, што Беларускае тэлебачанне пакажа прэм'еру фільма-оперы «Альпійская балада» (на аснове аднайменнага твора ўкраінскага кампазітара Віталія Губарэнкі), дык была проста заінтрыгавана. Бо тэлевізійныя інтэрпрэтацыі оперных пастановак у нашай рэспубліцы пакуль нешматлікія («У пушчах Палесся» А. Багатырова, «Марынка» Р. Пукста, «Сівая легенда» Д. Смольскага і тэлеопера Г. Вагнера «Ранак»). На гэты раз перад творчым калектывам была задача перанясення ва ўмовы здымак ігравога кіно камернай оперы. На першы погляд, у гэтым няма нічога складанага: давяральнасць выказвання, камернасць абстаноўкі, псіхалагічнасць — усё адпавядае выяўленчым магчымасцям тэлебачання, дазваляе пабудаваць драматургію глядзельнага раду на буйных планах і тым самым, што вельмі важна, перанесці акцэнт на ігру акцёраў.

Але зададзім сабе пытанне: ці камерная аповесць Васіля Быкава, пакладзеная ў аснову сюжэта оперы? Так, у ёй, акрамя галоўных герояў Івана і Джуліі, дзейных асоб няшмат: палонныя, аўстрыйскі селянін, вар'ят гефтлінг, эсэсаўцы. У оперы яны не прысутнічаюць. Кола падзей, у якім апынуліся героі, уражваюць сваімі маштабамі і глыбінёй. Адарваныя ад радзімы, кінутыя ў пекла фашысцкага канцлагеру, у якім робіцца ўсё, каб знішчыць чалавека як асобу, людзі знаходзяць у сабе сілы для барацьбы. Іван з таварышамі вырашае ўцячы ў Трыест да партызан, каб прадоўжыць барацьбу з гітлераўцамі, адпомсціць за ўсіх, хто загінуў у фашысцкіх засценках. Разам з ім удалося ўцячы італьянцы Джуліі. Тры дні шляху ў гарах да перавалу сталі для іх дарогай да свабоды і шчасця: шчасця зноў адчуць сябе чалавекам, здольным да барацьбы, шчасця адчуць хараство прыроды, шчасця кахання. Гэта трагічнае ўзыходжанне двух людзей, якія згубіліся ў цяжка праходных гарах, разрывае ўяўныя межы камернасці. Драма герояў набывае агульначалавечы характар.

Пяцьдзесят хвілін, на працягу якіх ішоў фільм-опера, былі часам напружанай увагі. Відовішча я міжволі параўноўвала з аповесцю, добра знаёмай яшчэ са школьных гадоў. І, вядома, цікавіла, ці атрымаўся сінтэз оперы і ігравога кіно?

На мой погляд, рэжысёр Г. Нікалаеў вырашыў гэтую няпростую задачу. У кожным кадры адчувалася імкненне ісці ад музыкі, якая, на жаль, не заўсёды падказвала цікавае выяўленчае вырашэнне. Жанр камернай оперы пры такім сюжэце, безумоўна, патрабуе ад кампазітара сапраўднай сімфанічнасці мыслення. Паядынак Івана і Джуліі з фашыстамі, цяжкі гнёт страху перад пагібеллю, які яны пастаянна адчувалі, павінен быў адлюстравацца ў інтанацыйнай драматургіі оперы. Але ў творы В. Губарэнкі канфлікт большай часткай прадстаўлены на ўзроўні кантрастнага супастаўлення рознахарактарнага тэматызму. Моцна выяўленая лірычнасць у партыях галоўных герояў як бы замыкае іх перажыванні на чыста суб'ектыўным баку падзей. Але камернасць выказвання зусім па-іншаму загучала ў фільме, дзе дзеянне са сцэнічных падмосткаў перанеслася на прасторы горных пейзажаў. Маленькія фігуркі людзей на фоне скал яшчэ больш узмацняюць уражанне ўяўнасці свабоды і шчасця былых вязняў.

Трагічныя эпізоды ўрываюцца ў тканіну фільма, разрываюць яе. Асабліва ярка гэта праявілася ў сцэне гібелі Івана. Прамое супастаўленне кадраў адначасова з тэмай фашыстаў імгненна скрэсліла ідылічную карціну квітнеючага альпійскага луга. Замест яркіх і светлых фарбаў — рванае клочча снегу на шэрых скалах, холад, цемната. Удалечыні чуваць брэх сабак. Гэта — смерць. Джулія ў страху і адчаі мітусіцца па ўзлобку, але бегчы няма куды: ззаду бездань. І гэткі ж няўстойлівы рытм руху камеры, перарывісты рух кадраў.

На маю думку, цікава вырашаны і моманты ўспамінаў у фільме: эпізод уцёкаў з лагера і мысленнае вяртанне сучаснай Джуліі да мінулага паказаны як рэальныя падзеі. Такое сумяшчэнне розных часавых адрэзкаў яшчэ больш узмацняе іх эмацыянальнае ўздзеянне.

Адзначу работу салістаў Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР Н. Рудневай і У. Экнадзіёсава, якія выканалі ролі галоўных герояў «Альпійскай балады». Яны дастойна справіліся з нялёгкай акцёрскай задачай, паказалі не толькі добрае валоданне голасам, а і ўменне жыць у вобразе.

Вядома, у фільме-оперы ёсць і недахопы: часам замінае ўспрыманню залішняя прыгажосць і ідылічнасць пейзажаў, крыху зацягнута сярэдняя частка. Але хай і не ўсё ў новай рабоце ўдалося, аднак новы крок у асваенні жанру оперы на Беларускім тэлеэкране зроблены.

**Т. ВАЛАЧКОВІЧ,**
**студэнтка БДК**
**імя А. В. Луначарскага.**



# І ЗНОЎ ГУЧЫЦЬ КАПЭЛА

**У канцы філарманічнага сезона адбыўся канцэрт Акадэмічнай харавой капэлы БССР імя Р. Шырмы (мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор Людміла Яфімава). У зале Белдзяржфілармоніі сабраліся сапраўдныя прыхільнікі харавой музыкі, сярод іх кампазітары, музыказнаўцы, выкладчыкі музычных вучылішчаў, школ і, канечне ж, ветэраны капэлы.**

**Калектыў вядомы далёка за межамі Беларусі; калектыў унікальны, з багатымі традыцыямі, са сваім нацыянальным абліччам. Такой была капэла, калі ёю кіраваў Рыгор Раманавіч Шырма. Не адзін год прыхільнікаў капэлы хвалявала: хто ж здолее прадоўжыць справу выдатнага музыканта і дырыжора, захавае і памножыць слынныя традыцыі нашага цудоўнага калектыву?..**

**Як вядома, у сакавіку 1987 г. капэла разам з новым кіраўніком Л. Яфімавай пачала працу над новым творам Л. Шлег «Гуканне вясны», які быў выкананы ўжо ў красавіку. Потым — «Патэтычная араторыя» Г. Свірыдава на вершы У. Маякоўскага; араторыя Я. Глебава «Свяці, зара!», «Рэквіем» Р. Шумана. Па заказе грузінскага дырыжора В. Шубладзе ў кароткі час было падрыхтавана і выканана ў зале Кіеўскай філармоніі сачыненне А. Брукнера «Тэ Дэум». Апроч таго, паспяхова праходзілі планавыя канцэрты.**

**І вось за кароткі час была падрыхтавана новая праграма, складзеная толькі з нумароў а капэла (акрамя «Рэквіема» Р. Шумана).**

**Адкрылі яе фрагменты з харавой кантаты А. Хадоскі «Песні Белай Русі». Ужо першыя акорды зачаравалі аўдыторыю выдатна збалансаваным ансамблем кожнай партыі і ўсяго хору ў цэлым, мяккасцю гучання, выразнасцю, гнуткасцю выканання, выдатным ладам. У канцэрце былі прадстаўлены разнастайныя па стылі і жанры творы беларускіх, рускіх кампазітараў, беларускія народныя песні, заходняя і айчынная класіка. Сярод іх «Зайграю на дудцы» з харавога канцэрта А. Мдзівані «Замовы» (вершы А. Пашкевіч), хоры з «Пушкінскага вянка» Г. Свірыдава, тонкія харавыя мініяцюры Я. Казаноўскага 'на вершы японскіх паэтаў, чатырохгалосы псалом XVI стагоддзя Вацлава з Шамотул.**

**Асабліва парадаваў нас, ветэранаў капэлы, «Вянок беларускіх народных песень» (з анталогіі Р. Шырмы), выкананы ў стылі лепшых традыцый Шырмавай песні — лёгка, цёпла, пранікнёна, задушэўна.**

**У заключэнні канцэрта цудоўна прагучалі фрагменты з бессмяротнага твора С. Рахманінава «Літургія Святога Іаана Златавуста». Выдатная інтэрпрэтацыя Л. Яфімавай, высокая вакальная культура ад пяшчотнага піянісіма да магутнага фарцісіма, тонкая нюансіроўка, выдатна збалансаваныя харавыя партыі і хору ў цэлым. Ніводная харавая партыя не вылучалася з агульнага гучання —адзіны арганізм! Выдатныя салісты: бас Уладзімір Грашчанка — магутны, кампактны, мяккі, вельмі прыгожы тэмбр; тэнар Уладзімір Пархоменка — мяккі, прыгожы, палётны; мецца-сапрана Эма Пеніна — густы, аксамітны, кампактны, мяккі голас; Святлана Вандзілоўская — мяккае, гучнае, пяшчотнае, надзвычай прыгожае сапрана. Арганічна спалучаюцца салісты паміж сабой і з хорам.**

**Праца зроблена вялікая, вынік відавочны. Таму і кожны нумар канцэрта выклікаў бурныя апладысменты гледачоў. А фрагменты з «Літургіі» С. Рахманінава прагучалі, як яркі, сонечны апафеоз і выклікалі бурныя апладысменты. Зала скандзіравала: «Брава!», «Малай-цы!». Адбылося цудоўнае свята харавой музыкі.**

**Адно дзіўна: чаму гэты канцэрт — прэм'еру праграмы Акадэмічнай харавой капэлы БССР імя Р. Шырмы — абмінула ўвагай тэлебачанне? Трэба было б шырэй прапагандаваць гэты цудоўны калектыў.**

**Хочацца верыць, што капэла з кожным днём будзе ўдасканальваць сваё мастацкае майстэрства і будзе дастойная памяці выдатнага дзеяча харавога мастацтва, нашага настаўніка Рыгора Раманавіча Шырмы і зноў зойме віднае месца сярод лепшых калектываў Саюза ССР.**

**І. БОКСЕНБАУМ,**
**ветэран капэлы.**

**Здымак зроблены пад час рэпетыцыі шырмаўцаў.**

Фота С. НЯЧАЕВА.

КОЖНЫ З НАС, якія б розныя мы ні былі, нясе ў сабе нейкія агульныя рысы свайго пакалення. Пакаленне 30-х, якое зведала цяжкія выпрабаванні і шмат што страціла ў тых выпрабаваннях, усё ж такі было і гераічнае. Гераічнае найперш сваёй працай. Яно здзіўляла сваім неверагодным энтузіязмам і несакрушальнай —нягледзячы ні на што — верай у высокія ідэалы, верай, якая дапамагла вытрываць у выпрабаваннях і трагедыях таго часу.

**МУЗЫКА**

# «НЯМА ЛЁСУ БОЛЬШ ЦУДОЎНАГА...»

**Народнаму артысту БССР, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі СССР Анатолю БАГАТЫРОВУ—75**

*Не хочацца, каб гэты артыкул быў парадна-святочным, калі пералічваюцца ўзнагароды юбіляра, падводзяцца рахункі творчым здзяйсненням. Гэтага не трэба. Імя старэйшага майстра беларускага мастацтва ўсім нам вядома з дзяцінства. Музыка яго даўно даказала сваю жыццяздольнасць: яна вядомая і любімая, бо кожны гук яе адрасуецца людскім сэрцам, хвалюе і радуе іх. Усё жыццё, творчы шлях кампазітара Анатоля Багатырова даюць магчымасць на прыкладзе аднаго лёсу зразумець значнасць такой з'явы, як савецкая шматнацыянальная музыка, зразумець ролю асобы ў развіцці нацыянальнай культуры, адчуць сілу ўздзеяння гэтай асобы праз мастацтва на фарміраванне эстэтычных поглядаў некалькіх пакаленняў. Таму мне хацелася, каб на гэтых старонках прагучаў голас самога майстра, бо вопыт і мудрасць, якія дае чалавеку перажытае — нялёгкае і радаснае, могуць адказаць і на пытанні сённяшняга часу — такога складанага і супярэчлівага.*

**— 37—39 гады былі страшнымі ў жыцці нашага грамадства, — гаворыць А. Багатыроў. — Стаўшы старшынёй нашага Саюза кампазітараў у ліпені 1938 года, я апынуўся (як і многія) перад шматлікімі выпрабаваннямі. Можна было застацца сумленным чалавекам або стаць на шлях прыстасавальніцтва, здзелкі са сваім сумленнем у адносінах да сваіх калег. І вось сёння я магу з вялікім задавальненнем сказаць, што ў той перыяд і ва ўвесь час майго старшынёўства ніхто з членаў СК не быў рэпрэсіраваны.**

Так, 37-ы стаўся ўвасабленнем страху, несправядлівасцей, зламаных жыццяў. Але 37-мы таксама — год стварэння Пятай сімфоніі Д. Шастаковіча, глыбока драматычнай, але і лірычнай, найбольш светлай у творчасці кампазітара; дэмакратычнай і светлай 18-ай сімфоніі М. Мяскоўскага; бліскучай, дасціпнай, скрозь прасякнутай жыццесцвярджальным настроем «Рускай уверцюры» С. Пракоф'ева; цудоўных пушкінскіх рамансаў Ю. Шапорына. Цяпер часта пытаюцца: як жа так — страшная эпоха і гэткая светлая музыка — І. Дунаеўскага, С. Пракоф'ева, Ю. Шапорына, А. Хачатурана? Аднак Федэрыка Гарсія Лорка сказаў: «Паэзія — гэта немагчымае, якое зрабілася магчымым». Калі нешта немагчыма ў жыцці, мы шукаем і часам знаходзім гэта ў творчасці. Можа, тут і разгадка, чаму ў самых змрочных раздзелах вялікай кнігі, якая завецца гісторыяй, раптам сустракаеш светлыя, як прамень, старонкі.

37-ы год—гэта ж і год памяці А. С. Пушкіна — 100-годдзе з часу гібелі паэта. Якую хвалю творчай актыўнасці выклікала гэтая дата ў прадстаўнікоў усіх відаў мастацтва! Вось і 24-гадовы Анатоль Багатыроў піша чароўную «Казку пра Мядзведзіху» паводле незавершанага твора А. Пушкіна, свой першы буйны твор — дыпломную работу на заканчэнне Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. Я памятаю гэты светлы, паэтычны, кранальны твор з маленства: у 50-ыя гады «Казка...» часта гучала па радыё. Паэтычная музыка з яе найвыразнымі кантрастамі паміж бестурботнай карцінай сонечнага летняга дня і змрочнай сцэнай забойства Мядзведзіхі глыбока хвалявала, а плач Мядзведзя заўсёды выклікаў самае шчырае, глыбокае спачуванне. (Між іншым, згадваю, што летась таксама быў пушкінскі юбілей — 150-годдзе з дня гібелі паэта. А хто з нас, ці з маладзейшых, ды і са старэйшых калег-кампазітараў адгукнуўся на гэту дату? Чаму не было такой патрэбы?).

**— У той пушкінскі год на**

# Па слядах Міколы Сурначова

Апошнім часам, збіраючы матэрыял для новай аповесці, давялося двойчы пабываць у ГДР. І кожным разам прасіў нямецкіх сяброў дапамагчы адшукаць магілу земляка, паэта-воіна Міколы Сурначова.

Загінуў М. Сурначоў у красавіку 1945 года, на подступах да Берліна. Аднапалчанін І. Плахатнюк сцвярджае: «Было гэта за 8 кіламетраў ад Берліна...»

Але дзе дакладна гэтая мясціна? Як загінуў наш славуты зямляк? Ці ёсць сведкі апошняга бою? Дзе і як пахаваны? На ўсе гэтыя пытанні хацелася знайсці адказы. Дапамагчы ўзялася нястомная энтузіястка, старшыня таварыства германа-савецкай дружбы на хімічным заводзе ў Косвігу Розмары Канопка. Яна напісала дзесяткі пісьмаў ва ўсе раёны ГДР.

І вось — жаданая вестка. Ліст ад намесніка бургамістра раённага горада Бад-Фрэенвальдэ таварыша Клоса:

«Пошук наш даў станоўчы вынік. Як паведаміў гісторык таварыства Фрэйдэнберг Гергат Тумс (каля гэтага паселішча якраз і быў апошні начны бой жменькі смельчакоў, які натхняў камандзір узвода знішчальнага супрацьтанкавага артылерыйскага палка старшы лейтэнант Мікалай Сурначоў.— **У. Л.**), усе васемнаццаць магіл савецкіх воінаў у 1948 годзе перанесены на брацкія могілкі ў

 

**вершы паэта пісалі многія кампазітары, нагадаю цудоўныя цыклы Шапорына і Свірыдава. І ўсе вучні нашага класа — класа Васіля Андрэевіча Залатарова свае дыпломныя працы тады таксама пісалі на творы Пушкіна. Кантату «Ваявода» напісаў Пётр Падкавыраў, цудоўныя рамансы і кантату «Тапелец» стварыў Міхаіл Крошнер. Ён быў старэйшы за нас, шмат чаго ўжо бачыў у жыцці, быў вельмі добразычлівы і як бы зніто́ўваў адносіны паміж вучнямі ў класе. Цікавы твор паводле «Сценькі Разіна» напісаў Анатоль Папоў — чалавек вельмі таленавіты, які, на жаль, загінуў на фронце ў самым канцы вайны. Не ўсе творы былі аднолькава ўдалыя, але**



**сам факт, што ўсе адгукнуліся на гэтую блізкую кожнаму сэрцу дату, сведчыць пра душэўную дый грамадзянскую спагадлівасць. Тэкст «Казкі...» я ўзяў па прапанове В. А. Залатарова і, трэба сказаць, што твор гэты меў вельмі шчаслівы рэпертуарны лёс і выконваўся не толькі ў Беларусі, а і далёка за яе межамі.**

Праз два гады кампазітар распачаў працу над сваёй першай операй. У 1940 годзе ў жыцці Беларусі адбылася падзея, якая, безумоўна, акумуліравала творчае жыццё рэспублікі. Гэта Дэкада беларускага мастацтва ў Маскве.

**— Рыхтаваліся мы да дэкады вельмі дбайна, з вялікім уздымам, энтузіязмам. З 1937 па самы 1940 год. Да дэкады пісаліся балет М. Крошнера «Салавей» і тры оперы: «Кветка шчасця» А. Туранкова, «Міхась Падгорны» Я. Цікоцкага, я пісаў «У пушчах Палесся». Дырэктар опернага тэатра К. Гантман, добра разумеючы справу, хвалюючыся за лёс беларускага мастацтва і вынік дэкады, запрасіў у Мінск для кансультацый лепшыя сталічныя сілы: дырыжораў Галаванава і Самасуда, кампазітара Гліэра, балетмайстраў Галяйзоўскага, Лапухова, Ермалаева, прыязджала і вялікая спявачка Няжданава. І дэкада прайшла з вялікім поспехам, што ў сваю чаргу натхняла мастаноў на новыя здзяйсненні.**

Газета «Известия» пісала ў 1940 годзе: «У Багатырова вялікае драматычнае чуццё. Ягоная лірыка шчырая, эмацыянальная, героіка мужная і высакародная. Народны гумар, паэтычныя абразкі прыроды выразна адлюстраваны ў ягонай музыцы. Самым моцным бокам Багатырова з'яўляецца меладычны дар. Менавіта ў мелодыі ўся своеасаблівасць, арыгінальнасць музыкі Багатырова і разам з тым яе арганічная сувязь з мастацтвам беларускага народа. Любоў да народнай песні, глыбокае разуменне яе асаблівасцей вызначае асноўны характар музычнага стылю кампазітара — стылю, які з'яўляецца развіццём элементаў народнай музыкі. Вось чаму кампазітару так удалася абмалёўка нацыянальных тыпаў, вялікіх харавых сцэн... «У пушчах Палесся» — вялікае дасягненне маладога тэатра і зарука далейшага росквіту беларускага опернага мастацтва».

Такі ранні поспех маладога творцы (опера была ўдастоена Дзяржаўнай прэміі СССР) — вынік не толькі таленту, гэта поспех цалкам сфарміраванай асобы. А хуткасць фарміравання асобы мастака залежыць ад умоў выхавання, ад асяроддзя, якое акружае чалавека ад нараджэння ці якое складваецца пазней. Анатоль Багатыроў нарадзіўся ў сям'і настаўнікаў у Віцебску, які на пачатку стагоддзя быў буйным культурным цэнтрам...

**— Але, але, маё жыццё цесна звязана з Віцебскам. У гэтым горадзе я нарадзіўся, тут прайшлі маё дзяцінства і юнацтва. Жылі мы на Сянной плошчы, зараз гэта вуліца Багдана Хмяльніцкага. Мая кампазітарская творчасць пачалася ў атмасферы музыкі. У нашай сям'і добра спявала маці. Яна выступала з канцэртамі, і я, калі пачаў займацца на фартэпіяна і быў дастаткова падрыхтаваны, пачаў ёй акампанаваць. Праз Віцебск праходзілі гастрольныя шляхі многіх артыстаў, у Віцебску спыняліся вядомыя паэты. Памятаю, як бацька ўзяў мяне з сабой на сустрэчу з Уладзімірам Маякоўскім у гарадскі тэатр. Ніводзін паэт не чытаў свае вершы так цудоўна! Гэта было высокамастацкае, па-сапраўднаму артыстычнае выступленне. У 1918 годзе ў Віцебску была адкрыта народная кансерваторыя. Дырэктарам яе быў запрошаны Мікалай Малько — цудоўны музыкант, які арганізаваў сімфанічны аркестр з выкладчыкаў і музыкантаў, што прыехалі з ім з Петраграда. Яны часта бывалі ў нас дома, наладжвалі вялікія музычныя вечары, дзе я, дзіця, усё слухаў, убіраў у сябе. Усё гэта фарміравала светаўспрыманне, густ, выхоўвала любоў да мастацтва.**

З часам было ўжо зразумела, што музыка — гэта ягоны лёс. Віцебская музычная школа, музычны тэхнікум у Мінску, потым кансерваторыя...

А неўзабаве — вайна. Грозныя і гераічныя гады. Ды толькі і тады творчасць не згасала. Ніякія выпрабаванні не маглі яе спыніць: ні цяжар вестак з фронту, ні неабходнасць пакінуць свой родны кут, ні адсутнасць умоў для працы. Знаходзячыся ў эвакуацыі ў Свярдлоўску, А. Багатыроў піша творы, без якіх цяпер і не ўяўляеш сабе гісторыю беларускай і ўвогуле савецкай музыкі. Гэта найперш — кантаты «Ленінградцы» на словы Джамбула і «Беларускім партызанам» на вершы Янкі Купалы (зрабілася музычным сімвалам партызанскай барацьбы на Беларусі). І гэта таксама была зброя ў суровы час!

Вайна, якая ішла тады, прымушала ўспомніць і іншыя войны, кожная з якіх давала шмат прыкладаў святога гераізму. У Свярдлоўску А. Багатыроў распачаў оперу «Надзежда Дурава» — эпічнае і адначасова рамантычнае апавяданне пра «кавалерыст-дзяўчыну», якая пад выглядам афіцэра Аляксандрава гераічна абараняла радзіму ў час напалеонаўскага нашэсця. Уражвае, што якую старонку оперы Багатырова не раскрыеш — рамантычную арыю гераіні, народныя сцэны, харавыя салдацкія эпізоды ці карціну Барадзінскага бою, — усе яны здзіўляюць жывым адчуваннем падзей.

Перажыванні, звязаныя з падзеямі вайны, не пакінулі кампазітара ў мірны час. Пасля кантаты «Беларусь», дзе А. Багатыроў адлюстраваў жыццё пасляваеннай рэспублікі, ён піша Санату для скрыпкі і фартэпіяна, у 1 частцы якой ізноў згадвае падзеі, настроі ваеннага часу, а потым — Першую сімфонію, адзін з самых драматычных сваіх твораў, дзе зноў апавядае пра веліч маральнага духу чалавека ў час суровых выпрабаванняў. Праз многа год ён вернецца да гэтай тэмы ізноў — у араторыі «Бітва за Беларусь».

У пасляваенныя гады пачалася інтэнсіўная педагагічная дзейнасць Анатоля Васільевіча Багатырова. Яна працягваецца і сёння. Пра дзейнасць настаўніка мы мяркуем па выніках ягонай працы, а вынік гэты — вучні, іхняя творчасць. Дастаткова назваць толькі некаторыя імёны: Я. Глебаў, Г. Вагнер, Д. Смольскі, І. Лучанок, А. Мдзівані, В. Войцік, Л. Захлеўны, — каб зразумець, што вынік цудоўны. І самае каштоўнае ў вучнях Багатырова тое, што ўсе яны вельмі розныя, у кожнага сфарміравалася ўласная індывідуальнасць, што кожны з іх абраў **свой** шлях у мастацтве, выпрацаваў **свой** почырк, знайшоў **сваю** тэму.

**— Ведаеце, у творчым працэсе (пад час навучання) не ўсё залежыць ад настаўніка. Шмат што залежыць і ад асобы самога вучня: яго здольнасцей, стараннасці, агульнай падрыхтаванасці, нават яго маральных якасцей. Вельмі добра, калі вучні не капіруюць творчую манеру настаўніка, а шукаюць сваіх шляхоў у мастацтве. Таму лічу, галоўнае на ўроку — гэта аналіз музычных твораў кампазітараў розных стыляў і напрамкаў, розных школ. Толькі так можна выхаваць індывідуальнасць. Не ўсе, хто скончыў кампазітарскае аддзяленне, робяцца кампазітарамі. Але нічога страшнага тут няма. Галоўнае, каб чалавек сапраўдным музыкантам быў, хай і не кампазітарам. Галоўнае, каб ён быў асобай, каб усведамляў, што самае страшнае ў мастацтве — гэта стандартызацыя, ваяўнічы прымітывізм (якога ў гады застою перасталі саромецца), культ пацяшальнасці (таксама набытак часоў застою). І ўсё ж такі сапраўднае шчасце, калі да цябе ў клас трапляе таленавіты вучань, які абяцае вырасці ў сапраўднага кампазітара.**

**Апошнім часам на адрас кансерваторыі гучаць нараканні: чаму не вучаць пісаць пацяшальную музыку, чаму не вывучаюць розныя напрамкі рок-стылю, чаму не вучаць эстраднай аранжыроўцы? Гэтыя пытанні задаюць людзі, якія ніколі не адчынілі дзверы ў оперны тэатр, на камерны вечар у філармоніі. Можа, яны не ведаюць, што ва ўсякім жанры музыкі (лёгкі ён ці сур'ёзны) патрабаванні да твора адны і тыя ж: яркасць музычнага матэрыялу, прысутнасць у творы свежай індывідуальнай інтанацыі, уменне пабудаваць выразную форму, выпісаць фактурную тканіну, дакладна ўвасобіць сваю кампазітарскую задуму. Гэта і ёсць прафесіяналізм, гэтаму і вучаць у кансерваторыі. Менавіта гэта той падмурак, на якім, калі ён ёсць, можна ўзводзіць будынак у любым стылі і жанры. І вельмі нягожа, спекулятыўна робяць тыя невукі, якія пра асобныя жанры музыкі і напрамкі ў ёй гавораць ад імя народа: «гэта народу патрэбна», «гэта народу непатрэбна». Народ складаецца З АСОБНЫХ ЛЮДЗЕЙ, і ў кожнага свой густ, свае імкненні, прыхільнасці. І ніхто не мае манаполію казаць ад імя ўсяго народа. Мае творчыя сустрэчы ў Віцебску, Гомелі, усё маё жыццё пераконваюць мяне, што людзі здатныя зразумець самае сур'ёзнае мастацтва. Калі мастак працуе сумленна і не гуляе ў дэмакратызм з публікай, не адступае ад сваіх творчых прынцыпаў, — ён заўсёды будзе па-сапраўднаму ацэнены народам.**

Сёння пра выхаваўчую, ачышчальную ролю мастацтва мастакі і літаратары загаварылі на ўвесь голас. І адразу перад тымі, каго хвалююць гэтыя пытанні, паўсталі новыя складаныя праблемы. Ім і быў прысвечаны Усесаюзны пленум праўлення Саюза кампазітараў па эстэтычным выхаванні дзяцей і юнацтва, які адбыўся ў Маскве. У сваёй прамове на ім А. Багатыроў гаварыў: «Масавая культура робіць замах на духоўны свет нашага грамадства, разбурае тое, што заснавана на нязменных,ісцінных каштоўнасцях, якія складаюць сутнасць чалавецтва. Разбурае тое, што ўсе мы па меры сваіх магчымасцей стваралі ў нялёгкіх умовах. Чаму мы баімся адкрытай канфрантацыі? Яна ж рэальна існуе! А мы апраўдваемся, каемся, амаль што просім дазволу на існаванне. Чаго нам баяцца — за намі ж шматвяковы вопыт чалавецтва, духоўная сіла. Але мы павінны паклапаціцца, каб менавіта гэты вопыт быў успрыняты наступнымі пакаленнямі, каб яны выхоўваліся на тым, што будзе ўзбагачаць іх духоўнае жыццё».

У мастацтве ёсць адвечныя тэмы. Яны невычэрпныя, яны не падлягаюць модзе, цяжкасцям і супярэчнасцям нашага жыцця. Думка пра тое, што не можа быць пачуцця больш узвышанага і высакароднага, чым любоў да Радзімы, што няма лёсу больш драматычнага і цудоўнага, чым лёс тваёй Радзімы, гучыць у творчасці А. Багатырова і зараз. На поўны голас выказаў кампазітар гэтую думку і ў музыцы, якая прагучала на яго сёлетнім аўтарскім вечары ў Мінску. Прынамсі, манументальная араторыя «Бітва за Беларусь», напісаная ў апошнія гады, пацвердзіла: кампазітар поўны творчых сіл, і мы можам чакаць ад яго новых твораў. А гарачы прыём музыкі слухачамі, глыбокая ўдзячнасць тых, хто прыйшоў на яго канцэрт, былі ўзнагародай майстру за доўгія гады нястомнай творчай працы, за адданасць мастацтву, за вернае служэнне абранай справе — талентам, сэрцам, майстэрствам.

**Галіна ГАРЭЛАВА.**

---

**райцэнтр Бад-Фрэенвальдэ. Там мы і знайшлі пліту надмагільную з прозвішчам «Сурначоў». Аднак павінны паведаміць, што ў напісанні прозвішча існуе розніца з тым, што вы прыслалі нам. Калі ўзнікнуць пытанні ці просьбы, мы заўжды да вашых паслуг. З сацыялістычным прывітаннем Клос».**

**Сапраўды, на надмагільнай пліце дапушчана памылка. Напісана «Сурнамов Н. Н.». Але ініцыялы і вайсковае званне супадаюць. Проста, відаць, нямецкія таварышы дапусцілі памылку пры вымаўленні, прачытанні прозвішча паэта. Паглядзіце, колькі такіх пліт на брацкіх могілках у Бад-Фрэенвальдзе, колькі там яшчэ ляжыць невядомых салдат.**

**Прозвішча Міколы Сурначова ўстаноўлена. Выходзіць, былі звесткі, былі дакументы. А раптам тое-сёе ёсць у таго гісторыка-энтузіяста з пасёлка Фрэйдэнберга, дзе першапачаткова быў пахаваны Сурначоў? А раптам (тут аж займае дух!) той гісторык навядзе на след палявой сумкі Міколы Сурначова, з якой ён не расставаўся, у якой ляжалі не толькі вайсковыя дакументы, але і новыя вершы, накіды, лісты ад сяброў?**

**Усё гэта вельмі можа быць, бо для нямецкіх таварышаў «Н. Н. Сурнамов» усяго толькі савецкі лейтэнант, а не паэт. Яны папрасілі расказаць, хто такі быў Мікола Сурначоў. І па маёй просьбе П. Прануза паслаў бургамістру Бад-Фрэенвальда свае ўспаміны пра паэта-сябра.**

**Яшчэ ўстаноўлена, што загінуў Мікола Сурначоў не зусім там, дзе прыгадваюць ветэраны. Не восем кіламетраў было ад Берліна, а хутчэй за ўсё восем кіламетраў да акружной берлінскай магістралі. Гэта не адно і тое ж.**

**На гэтым, бадай, і заканчваюцца мае аматарскія пошукі. Цяпер самы раз падключыцца нашаму Саюзу пісьменнікаў, літаратурнаму музею, грамадскасці. Трэба пабываць у тых мясцінах, дзе загінуў наш пісьменніцкі брат, сабраць новыя звесткі пра яго.**






**Уладзімір ЛІПСКІ.**



 

**У СВЯТЛЕ РАМПЫ**

# Набыць крылы

**Спектакль «ЧЫРВОНЫ КУТОК» на сцэне Маладзёжнага тэатра БССР**

Чырвоныя куткі — яны ўсюды падобныя, ці завод гэта, ці ферма, ці маладзёжны інтэрнат. Некальні плакатаў, некалькі лозунгаў, ды яшчэ можа быць пераходны сцяг і тэлевізар. Тут, у рабочым інтэрнаце, дзе жывуць дзяўчаты, стаяць пюпітры з чыстымі нотамі — намёк на нейкую узвышанасць інтарэсаў і памкненняў. Праўда, пюпітры, гэтыя, як высветлілася, выконваюць чыста дэкаратыўную функцыю: імі ні разу не панарысталіся. Мы адно пабачылі агітбрыгаду, якая дэкламуе бадзёрыя вершыкі і спявае досыць зацяганую ў апошні час гумарыстамі «Птицу счастья завтрашнего дня».

Коратка змест спектакля «Чырвоны куток» па п'есе М. Разоўскага можна перадаць так: маладая інтэрнатаўка п'е пачорнаму, а выхавацелька Ліка Фёдараўна спрабуе прызваць яе да парадку і даведацца заадно аб прычыне п'янства. І тут у нас узнікаюць пытанні. Некаторыя прыкметы (п'е адна, рэгулярна, а часам і «з гарла») гавораць пра тое, што перад намі клінічны выпадак. Ды і артыстка (Э Сакура) паказвае нам Саруханаву менавіта алкагалічкай: нерухомы, тупаваты выраз твару толькі к фіналу робіцца больш-менш чалавечым, прасветленым. Але наколькі ж недалёкай і наіўнай павінна быць выхавацелька, каб не зразумець, што мае справу з хворым чалавекам!

Л. Кучарэнка, якая іграе Ліку Фёдараўну, напачатку ці не завельмі літаральна зразумела сваю ролю. Яна з'яўляецца перад намі валявой хамаватай бабай у казённым сінім халаце, якая не менш казённа бярэцца за «сеанс выхавання», і паколькі падапечная ўхіляецца ад яго — замыкае дзверы на ключ. Яна куды больш падобна на вахцёрку, чым на выхавацельку. Адзін з характэрных дыялогаў гучыць прыкладна так:

— Мы не дазволім табе, Саруханава, каціцца ўніз.

— Куды хачу, туды і качуся.

— Маскве патрэбны рабочыя рукі і г. д.

Зноў пытанне: калі дзеянне адбываецца ў Маскве, то адкуль гэта настойлівае беларускае вымаўленне ў выхавацелькі? «Чэм плохо...», «Зра ты так со мной...» добра-такі рэжуць вуха і з-за сваёй невытлумачальнасці і недарэчнасці ў дадзеным кантэксце, закранаюць нацыянальныя пачуцці. Мусіць, артыстка адчула гэта, бо к сярэдзіне спектакля адмовілася ад сумніцельнай «знаходкі». Паступова пазбаўляючыся адназначнасці ў разуменні ролі, яна здолела ўсё ж прабіцца да чалавечай і жаночай сутнасці сваёй гераіні. Як пад халатам аказалася чырвоная блузка з нейкай медалькай, так пад маскай казённага клопату і аптымізму — чулая, спакутаваная сваімі і чужымі болькамі душа.

*На працягу спектакля Ліка* Фёдараўна перажывае некалькі метамарфозаў. Пасля вахцёркі мы бачым ужо тыповую энтузіястку даваеннага часу (на ўспамін просяцца гераіні вядомага спектакля А. Шапіры «Заўтра была вайна»). «Масква — гэта індустрыяльны цэнтр!» — патэтычна ўсклікае яна. Далей — больш, у зусім парадыйным тоне: «Наш завод не толькі выконвае план, але і робіць людзей шчаслівымі. Гэта звыш плана». І такое — сёння, *калі мы глядзім «Пакаянне»* (фільм згадваецца ў спектаклі) і займаемся аўтагеннай трэніроўкай?! Бадай, яна з другога вымярэння — гэта экзальтаваная Ліка Фёдараўна...

Даведаўшыся, што дзяўчына працуе ў прэсавым цэху, выхавацелька прыйшла ў поўнае захапленне: «Я там была! Там агонь! Малаток, які надае дэталям патрэбную форму!..» Яна і сама, як той малаток, хоча за адзін вечар прыдаць прапашчай Саруханавай форму дабрачыннага перадавіка вытворчасці. Пры гэтым праяўляе зайздросную цярплівасць, што не вельмі вяжацца з яе першапачатковай жорсткасцю.

А цярплівасць ой як патрэбна! Саруханава аказалася цвёрдым арэшкам. Настырнасць выхавацелькі натыкаецца на глухое, маўклівае, зацятае супраціўленне. Апатычна-гідкая міна дзяўчыны толькі аднойчы парушаецца плачам, досыць ненатуральным, і смехам, досыць непрыемным. Гераіня, адчуваецца, даўно змірылася з уласным апушчэнствам. Яна нехаця адбівае валявую атаку, і яе непахіснае «куды хачу, туды качуся» успрымаецца як жыццёвае крэда. Такая гераіня, здавалася б, не павінна служыць узорам для пераймання. (Ды і камедыю не кожны задумаў бы на такім матэрыяле). Аднак жа незалежныя паводзіны Саруханавай, яе трапныя рэпрызныя рэплікі выклікаюць у зале ажыўленую рэакцыю. Калі ўспомніць, што ў маладзёжнага тэатра маладзёжная аўдыторыя, якая ўспрымае найперш вонкавае, відавочнае, то этычная пазіцыя пастаноўшчыка В. Катавіцкага мне ўяўляецца хісткай.

Назіраючы за гледачамі, я зразумела, што ўнутранае супраціўленне адчуваю не толькі я. Занадта многа «мілых» падрабязнасцей, разлічаных на несфарміраваны густ. «Я не дзяўчына», — увесь час, напрыклад, падкрэслівае малодшая з гераінь. Жарт, можа, і тыповы для алкагалічкі, але ён выклікае зусім адваротны жаданаму эфект. Гэтак жа смакуецца, а, дакладней, высмейваецца дзявоцтва не вельмі юнай ужо Лікі Фёдараўны — разам з яе наспех выдуманымі кавалерамі. Але і гэтага здалося мала: прыпеўку, якую па ходу дзеяння спявае гераіня Э. Сакуры, замянілі на іншую — непрыстойную... Поспех любой цаной?

Няшмат прасветаў у жыцці завадчанкі. «Толькі і радасці, што танкеткі на мінулым тыдні купіла», — скажа яна, урэшце разгаварыўшыся. Тут я згодна з А. Салынскім, які ў прадмове да п'есы М. Разоўскага («Советская драматургия», 1986, № 4) піша аб праўдзе, «якая дае сілу гэтай п'есе». Ён, дарэчы, згадвае імёны А. Петрашкевіча і А. Дударава — як першапраходцаў у няпростай і балючай тэме.

На заклік выхавацелькі не апускаць крылы Саруханава спакойна заяўляе, што зроду іх не мела. Яна літаральна непрабівальная, што надае сцэнічнаму існаванню гераіні пэўную аднастайнасць. К фіналу спектакля, трэба сказаць, намячаецца пералом у паводзінах і характары. Нездарма ўсё ж выхавацелька стукалася ў яе, як у глухую сцяну! Мы паверылі нарэшце ў шчырасць намераў Лікі Фёдараўны. З-пад казёншчыны прабілася нармальная, адвечная чалавечая прага — дапамагчы, узбадзёрыць, падтрымаць — і Саруханава не магла на яе не адгукнуцца. Яна нават спачувальна пагладзіла выхавацельку па галаве — жэст, нечаканы нават для яе самой.

У многім вытлумачыў настойлівасць Лікі Фёдараўны і той факт, што раней яна працавала ў дзіцячым доме. Менавіта памяць пра занядбаных бацькамі, пакалечаных фізічна дзяцей (нарадзіліся ад алкаголікаў) і прымушае яе з такой страсцю і самаадданасцю змагацца за жывую душу не менш адзінокай, чым яна, былой вяскоўкі (адметны штрых!)...

Хацелася б думаць, што чарговая пастаноўка Маладзёжнага тэатра БССР — як і гераіня яе Саруханава — усё ж набудзе крылы, уздымецца да святла і духоўнасці і тым апраўдае сваё з'яўленне на мінскай сцэне.

Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ.

# МУЗЕЙ У ШКОЛЕ

Краязнаўчаму школьнаму музею вёскі Доўск Рагачоўскага раёна — 30 гадоў. Ён — адзін з лепшых у Гомельскай вобласці. Тут каля трох тысяч экспанатаў, кожны з якіх — крыніца ведаў пра родны край. Найбольшую цікавасць прыцягвае экспазіцыя раздзела «Наша мясцовасць у далёкім мінулым», дзе прадстаўлены шэраг унікальных экспанатаў. Сярод іх — пазванок іхтыязаўра, міжледніковы торф, акамянелы рог старажытнага насарога, абломак біўня і зуб мамапта. Ёсць і прылады працы, першабытнага чалавека, кераміка X—V ст. да н. э., кераміка і *кавальскія вырабы старажытных* славян. У раздзеле шырока прадстаўлена нумізматыка. Усе гэтыя экспанаты знойдзены вучнямі Доўскай школы на распрацоўках кар'ераў у навакольных вёсках, на будаўнічых пляцоўках, у час археалагічных раскопак.

Добра адлюстраваны ў экспазіцыі падзеі Вялікай Айчыннай вайны на Рагачоўшчыне і сённяшні дзень краю.

Неяк у час турысцкага паходу на мясцінах баявой славы юныя следапыты школы знайшлі каля вёскі Свержань безыменную магілу. Ад мясцовых жыхароў даведаліся, што там пахавана сібірачка — медсястра Лідзія Католіна, якая загінула пры фарсіраванні Дняпра. Доўскія школьнікі звязаліся са следапытамі з горада Омска, паведамілі ім пра сваю знаходку. Чакаць давялося нядоўга. У хуткім часе госці з сярэдняй школы № 96 г. Омска прыехалі на Беларусь, ушанавалі памяць сваёй зямлячкі.

Школьны музей падтрымлівае сувязь са школай пасёлка Малая Агароўка Тульскай вобласці, дзе жыў і вучыўся Герой Савецкага Саюза маёр Пётр Данілаў. Ён загінуў у снежні 1943 г. у час вызвалення Рагачоўшчыны і пахаваны ў Доўску.

Шмат добрых спраў на рахунку доўскіх школьнікаў, і ведаюць музей далёка за межамі раёна. Гасцямі музея былі супрацоўнікі краязнаўчых музеяў Мінска, Брэста, Гомеля, Магілёва, студэнты мінскіх ВНУ. Музей узнагароджаны граматамі Рагачоўскага *райкама, Гомельскага* аблана, дыпломам І ступені былога Міністэрства асветы БССР.

К. ЗАЙЦАЎ.

Вёска Доўск.

**З РЭДАКЦЫЙНАЙ ПОШТЫ**

# СКЛАЎСЯ ТАКІ СТЭРЭАТЫП...

ВЕЛЬМІ КАРЫСНУЮ і важную ў палітычных адносінах справу робіць у апошнія гады газета «Літаратура і мастацтва», змагаючыся супраць скажэнняў праграмнага патрабавання КПСС аб неабходнасці прызнаваць і паважаць нацыянальна-рускае двухмоўе. Сур'ёзныя парушэнні гэтага важнейшага прынцыпу савецкай нацыянальнай палітыкі на сучасным этапе прызнаны кіруючымі органамі нашай рэспублікі, і цяпер прымаюцца некаторыя захады для таго, каб пераадолець негатыўныя з'явы. У сувязі з гэтым вельмі важна высветліць прычыны, што прывялі да занядбання беларускай мовы і фактычнага ігнаравання беларуска-рускага двухмоўя.

Гэты ж артыкул выкліканы адным зусім канкрэтным выпадкам, які прывёў мяне да даволі сумнага роздуму. 9 Мая 1988 г. на тэрыторыі Савецкага раёна г. Мінска адбылося святкаванне 43-й гадавіны Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне. Урачыстыя выступленні былі арганізаваны парткомам завода ЭВМ імя Р. К. Арджанікідзе на пляцоўцы перад домам № 13 па вул. Кульман, дзе размяшчаецца ЖЭС-42.

Я быў запрошаны выступіць ад імя ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны. Натуральна, што як гісторык я ў сваёй прамове гаварыў пра дружбу народаў нашай краіны. На жаль, здзівіла і засмуціла выступленне артыстаў. Яны з вялікім уздымам выканалі дзесяць песень. Але... ніводнай на беларускай мове. Выбралі, праўда, адзін твор кампазітара Ігара Лучанка, толькі, зноў жа, на рускі тэкст.

Вось я і думаю: чаму тут яшчэ раз адбылося такое свядомае і адкрытае ігнараванне беларускай культуры? Неяк атрымалася, што, выступаючы ў друку супраць ігнаравання беларуска-рускага двухмоўя, супраць прыніжэння беларускай мовы, наша грамадскасць падвяргала крытыцы галоўным чынам сістэму колішніх Міністэрства асветы БССР і часткова Міністэрства вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі. Рабіліся крытычныя заўвагі таксама ў адрас некаторых іншых ведамстваў, устаноў і арганізацый.

Але пры гэтым зусім недастаткова звяртаецца ўвага на ролю Міністэрства культуры БССР. А яно ж можа вельмі многа зрабіць не толькі ва ўзняцці на належны ўзровень павагі да нацыянальнай па форме, сацыялістычнай па змесце культуры нашага народа, але таксама пашаны да беларускай мовы, да літаратурных твораў на гэтай мове. Акрамя таго, я хачу *падкрэсліць*, што беларуска-рускае двухмоўе мае сваю непаўторную асаблівасць: беларуская мова найбольш блізкая да рускай, і рускі чытач, слухач, глядач заўсёды зразумее творы, напісаныя і выкананыя па-беларуску.

Давайце цяпер звернемся да тэатральнай і канцэртнай дзейнасці некаторых устаноў мастацтва і культуры БССР. Возьмем, напрыклад, філармонію. Ці зрабіла яна здабыткам нашай эстрады такі шэдэўр мастацкай літаратуры, як паэма «Тарас на Парнасе?» Ні чуць па радыё, ні бачыць на тэлевізійным экране мне яе не даводзілася.

Пры масавай непісьменнасці ў дарэвалюцыйныя часы змест «Тараса на Парнасе» перадаваўся з вуснаў у вусны, фальклярызаваўся і шырока бытаваў як сродак задавальнення мастацка-эстэтычных густаў беларускага народа. У сувязі з гэтым не магу не нагадаць некаторыя факты са свайго асабістага жыцця. Мая маці ведала паэму «Тарас на Парнасе» на памяць, і не было большай асалоды ў мяне і суседскіх дзяцей, як у зімовы вечар пры запаленай грубцы паслухаць: «Ці знаў хто, братцы, з вас Тараса...»

У 1973 г. я наведаў горад Перм, дзе жыў тады мой стрыечны брат, старэйшы за мяне на 11 гадоў. Ён з маленства знаходзіўся ў Расіі, куды пераехалі яго бацькі. У час перапіскі са мной ён папрасіў прыслаць кнігі з *беларускімі паэтычнымі* творамі, якія да рэвалюцыі бытавалі ў вусным мастацкім выкананні. Якое ж было маё здзіўленне і захапленне, калі ў час нашай сустрэчы ён не толькі (як *калісь мая маці) прадэкла*маваў «Тараса на Парнасе», «Панскае ігрышча» і іншыя беларускія творы, але стаў таксама даваць каментарыі і крытычныя заўвагі па змесце гэтых паэм, якія (на яго думку) пры друкаванні падвергліся неабгрунтаваным рэдакцыйным папраўкам.

Нягледзячы на буйнейшыя сённяшнія дасягненні беларускай літаратуры, «Тарас на Парнасе» не павінен быць забыты, бо гэта гісторыя не толькі мастацкай творчасці народа, але і гісторыя яго побыту, яго існавання ў вельмі складаных гістарычных умовах.

А як добра служылі б справе нашай сучаснай перабудовы вершы савецкіх паэтаў Беларусі, каб яны сістэматычна выконваліся на дзяржаўных эстрадах і ў самадзейных калектывах.

Слухаў я 9 Мая памянёны канцэрт і думаў: а чаму б там не выканаць адну з самых узнёслых і гераічных песень савецкага народа — беларускі «Нёман»? Калісь жа выдатнейшы спявак М. Ворвулеў зрабіў яго каронным нумарам беларускага вакальнага мастацтва. Чаму ж цяпер мы не чуем гэтага шэдэўра, створанага Анатолем Астрэйкам і Нестарам Сакалоўскім? А песня пра Заслонава? Добра, што гэтай мелодыяй сустракаюць цяпер на мінскім вакзале цягнікі, якія прыбываюць сюды з Масквы. Але трэба, каб песня гэта не сыходзіла з нашых эстрад і спявалася нашай моладдзю.

А «Зорка Венера» на словы М. Багдановіча? Гэты лірычны, задушэўны раманс адпавядае ўзроўню самых лепшых сусветных твораў такога жанру, але эстрада не зрабіла «Зорку Венеру» мелодыяй, якую паўтаралі б і ў Беларусі, і за яе межамі.

Не магу не сказаць некалькі слоў і пра тых работнікаў культуры, якія часта, без усякіх аб'ектыўных прычын, нават добра ведаючы родную мову, свядома прыніжаюць яе месца і ролю ў беларуска-рускім двухмоўі.

У сувязі з гэтым не магу не нагадаць такі прыклад. Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору быў створаны ў 1957 г. як нацыянальная навукова-даследчая ўстанова, якая займаецца вывучэннем усіх відаў беларускага мастацтва, фальклору і народнага быту. Адразу дырэктарам інстытута быў прызначаны вядомы пісьменнік, акадэмік АН БССР Пятро Глебка, мне выпаў гонар адзінаццаць гадоў быць яго намеснікам па навуковай рабоце. У інстытуце панавала сапраўднае двухмоўе. Усё справаводства вялося на беларускай мове, усе сходы і пасяджэнні таксама. А што ж зараз? Цяпер справа дайшла да таго, што нядаўна на адным з пасяджэнняў у інстытуце нават беларускія фалькларысты выступілі на рускай мове.

І калі я прачытаў у адной газеце, як там адбылося пасяджэнне за «круглым сталом» па пытаннях беларускай мовы, мне на ўспамін прыйшоў польскі жарт: «Не патшце, цо ксёндз робі, а слухайце, цо ксёндз муві».

Ці можна зразумець такія адносіны да праграмнага патрабавання партыі па нацыянальна-рускаму двухмоўю з боку тых беларусаў, якія самі добра валодаюць роднай мовай, але ў падпарадкаваных ім установах знарок ігнаруюць яе ўжыванне? Няўжо ж ім дагэтуль яшчэ не зразумела, што карыстанне беларускай мовай трактаваць як нацыяналізм — гэта значыць, прытрымлівацца аджыўшых, асуджаных цяпер стэрэатыпаў.

**А. ЗАЛЕСКІ,**
**доктар гістарычных навук, прафесар.**

## КІНО

# ЗІРНУЦЬ НА ЎЛАСНАЕ ЖЫЦЦЁ

**Звычайная камунальная кватэра, пабудаваная ў павільёне кінастудыі «Беларусьфільм», быццам аб'яднала сабою рэальную жыццёвую прастору, абсурдныя сітуацыі і дзіўныя трызненні герояў фільма ў нейкую сатырычную фантазію, дзе ўсё пераблытана і не зразумець, што ж на самой справе адбываецца, але цікава — што ж адбудзецца?**

**...Малады спецыяліст Пётр Васільевіч Румянцаў па волі лёсу накіраваны на працу ў гэтую самую камунальную кватэру, дзе размясціўся філіял нейкага НДІ. У калідорах гэтай кватэры герою фільма давядзецца сутыкнуцца з жыццём, неверагодным для чалавека, які прыйшоў са студэнцкай лаўкі і прывык разумець і ацэньваць абставіны паводле падручнікаў і канспектаў.**

**«Філіял» — так называецца новая іґравая стужка маладога кінарэжысёра Яўгена Маркоўскага, які закончыў ВГІК (майстэрня С. Герасімава) у 1981 годзе і дэбютаваў фільмам «Свята ліхтароў» і тэлевізійнай карцінай «Як я быў вундэркіндам» (1983).**

**— Дзеянне нашага фільма адбываецца ў 1989 годзе,— расказвае рэжысёр фільма.— Неверагоднасць сітуацыі — спалучэнне ўнутры «камуналкі» філіяла НДІ і простых жыхароў, звычайных кватэраздымшчыкаў — толькі спачатку падасца нам выдумкаю, якая не мае супадзенняў з рэальнасцю. Мяркуйце самі: у нас на рабоце людзі жывуць нібы дома — гатуюць суп, ходзяць па магазінах, прыводзяць дзяцей, атрымліваюць за ўсё гэта грошы і існуючы парадак не падвяргаюць ніякаму сумненню. Ці не адсюль пайшла і практыка «несці з работы»—гэта ж мой дом! І вось гэтая сітуацыя — поўная пагарда да службовай адказнасці і ўласнага сумлення — можа працягвацца вельмі доўга. Гэтае абсурднае, недарэчнае і жахлівае становішча будзе да таго часу, пакуль людзям, якія ствараюць яго, так жыць будзе зручней. У нечым і сутнасць перабудовы — прабіць шкарлупінне, за якім людзям зручна жыць; гэта спроба давесці бязглуздасць выседжвання ўстаноўленага рабочага часу...**

**Тое, што Яўген Маркоўскі — фантазійны рэжысёр, было прыкметна і ў папярэдніх яго працах; акрамя таго, рэжысёр шмат увагі надае форме кінематаграфічнага твора. У яго аснову лёг сцэнарый ленінградскага драматурга А. Жыцінскага. Аператар фільма — А. Суханава, мастак — А. Верашчагін. Ролі выконваюць Д. Харацьян, А. Якаўлева, Л. Федасеева-Шукшына, Я. Дабравольская, Н. Кліманава, М. Старадубаў і іншыя.**

**Алег СЛІВА.**



Вера Платонаўна — Л. Федасеева-Шукшына.



Кадр з будучага фільма. На першым плане Д. Харацьян у ролі Пятра Румянцава.

# ЧАЛАВЕК НЕАБЫЯКАВЫ...

НАВЕДВАЛЬНІКІ Дома літаратара ўжо прызвычаіліся да таго, што тут часта ладзяцца мастацкія і іншыя экспазіцыі. Тут экспанаваліся фотаработы У. Крука, графіка В. Сташчанюка, экслібрысы В. Целеша. Апошняй тут праходзіла выстаўка графічных твораў Леаніда Марчанкі. Гэта мастак, як прынята казаць, сярэдняга пакалення. Нарадзіўся ён у 1941 годзе ў Бабруйску. Скончыў спачатку Пензенскае мастацкае вучылішча, а потым Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. Член Саюза мастакоў.

Уражанні ад гэтай выстаўкі змусілі мяне бліжэй пазнаёміцца з мастаком, наведаць яго майстэрню.

Апынуўся ў невялікім пакоі, са стэлажамі, рабочым сталом, станком для друку і невялічкімі астраўкамі для адпачынку. Вузенькая лесвіца вядзе на антрэсолі, дзе размешчана невялікая бібліятэка. Сярод усяго гэтага ён, мастак: сіваватая ўжо чупрына, цэпкія вочы, рукі працаўніка. Пачынаецца наша гаворка.

— Мяркуючы па работах, вы шмат падарожнічаеце.

**— Доўга быць на адным месцы не магу. Гэта, мабыць, доля ўсіх мастакоў. Мне неабходны ўражанні ад пачутага, убачанага, асэнсаванага.**

— У кнізе водгукаў, што знаходзілася на выстаўцы, шмат добрых слоў, накшталт таго, што гравюры вашы ўражваюць, абуджаюць думку, гістарычную памяць. Але ёсць і такія, дзе папракаюць у бездухоўнасці, ці, як там было напісана, у «безнацыянальным».

**— А што такое нацыянальнае? Хіба толькі намаляваная хатка, або прафесійна, але халадна, выпісаныя архітэктурныя помнікі? На жаль, шмат з таго, што падаецца як нацыянальнае — бутафорыя. Хіба Бялыніцкі-Біруля, з яго карцінамі прыгажосці поўначы нашай краіны, не беларускі нацыянальны мастак? Ён жа дапамог нам убачыць хараство гэтага краю. Праз свой светапогляд, сваё бачанне...**

Прыгадалася гравюра Л. Марчанкі «Суровы край» з серыі «Залацінка». Вісела яна неяк збоку, не кідалася адразу ў вочы. Упэўнены, шмат наведвальнікаў выстаўкі не звярнулі на яе асаблівай увагі. Залацінка — пасёлак у далёкай Якуціі. Пабудавалі яго на трасе БАМа беларускія хлопцы і дзяўчаты. Назву пасёлку дала невялічкая рэчка Залацінка, у якой шмат, кажуць, золата і рыбы. Сёння Байкала-Амурская магістраль дзейнічае, жыве пабудаваны беларусамі пасёлак, а гэты сціплы малюнак — напамін пра той час, пра добрыя справы камсамола рэспублікі. Хіба ж гэта «безнацыянальна»?

Былі потым у Леаніда Марчанкі Цюмень, Туркменія, Палярны круг. Не на сталічным асфальце нараджаюцца ў мастака яго карціны. Павандраваўшы, з апантанасцю і асалодай стварае ён цэлыя цыклы гравюр: «Мой край азёрны», «Зямля і людзі», «Горад Мінск».

— Вы шмат увагі ўдзяляеце грамадскім справам: член партыйнага бюро, член праўлення Саюза мастакоў БССР, старшыня графічнага мастацкага савета і г. д. Не перашкаджае гэта творчасці?

**— Безумоўна, часу бярэ шмат — недзе два дні ў тыдзень аддаю грамадскім абавязкам. Радасна, калі нехта з тваёй дапамогай атрымаў майстэрню альбо цікавую творчую камандзіроўку, калі твой удзел у лёсе чалавека патрэбны і своечасовы. Памятаю, як самому была неабходна, калі быў малады, падтрымка. Мне дапамаглі. Галоўнае — не згубіць пачуцця ўдзячнасці. Я яго не згубіў, таму, мабыць, імкнуся дапамагчы іншым.**

— Вы даволі актыўна ўдзельнічаеце ў выстаўках. Ёсць плён — на Усесаюзнай выстаўцы ў Маскве работы вашы атрымалі прэмію. Як адносіцеся да выставак? Што яны для вас?

**— Па-першае, вялікі стымул. Падрыхтоўка да выстаўкі — жорсткі, бескампрамісны самагляд, сказаў бы, пераацэньванне каштоўнасцей. Па-другое, вызначэнне свайго месца сярод таварышаў па мастацтве. Вельмі хвалююся кожны раз. Без выставак не можа быць творчага росту.**

— На мастацкіх выстаўках шмат экспануецца работ з прэтэнзіяй на арыгінальнасць. Але баюся, што ў пагоні за арыгінальнасцю мы губляем школу, тую школу, што дала нам вялікіх майстроў пэндзля. Дэмакратызацыя грамадскага жыцця для мастакоў, творчых людзей наогул, адкрыла шмат магчымасцей для адстойвання сваіх творчых пазіцый. Гэта добра, але і пра выхаванне густу нельга ж забываць.

**— На маю думку, усялякія праявы «авангардызму» маюць права на жыццё. Было б сумна, калі б усе людзі былі падобныя адзін на аднаго: аднолькавыя твары, думкі, учынкі. Час сам вызначыць, што ёсць сапраўднае мастацтва. Вызначыць дакладна.**

За вокнамі збіраўся вечар. Прыйшоў час дзякаваць гаспадару за гасціннасць...

Прайшоў час, а мне ўсё прыгадваецца сустрэча з гэтым чалавекам — чалавекам неабыякавым.

**В. СКВАРЦОЎ.**



Л. МАРЧАНКА. Палярны круг.

# АПЕРАЦЫЯ «АЎТАМАБІЛЬ-88»

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 4).**

кі новага айчыннага апарата па кантролі за таксічнасцю адпрацаваных аўтамабільных газаў. Загадчык аддзела надзейнасці і дыягностыкі машын Я. Лаўрыновіч сказаў, што на пачатку 11-й пяцігодкі гаркомам партыі і гарвыканкомам было дадзена заданне зрабіць 50 такіх прыбораў. Зрабілі 10. Акрамя гэтага, у садружнасці з Інстытутам фізікі АН БССР распрацаваны яшчэ і зусім новы прыбор АНБ-312, які быў сапраўды лепшы за «Інфраліт».

Цяпер, рыхтуючы гэты артыкул, я пацікавіўся, як працуюць мінскія аналізатары таксічнасці і ў супрацоўнікаў Дзяржінспекцыі па чысціні атмасфернага паветра, і ў прадстаўніка гарадскога ДАІ І. Ваніцкага. Усе яны няўцямна паціскалі плячамі: маўляў пра новы апарат першы раз чуюць.

Пазваніў у «Аўтатранстэх» першаму намесніку генеральнага дырэктара С. Цярэшку і растлумачыў яму ў чым справа. Ён доўга не мог зразумець, пра што ідзе гаворка, і ўвесь час паўтараў, што яны толькі рамантуюць сапсаваныя «Інфраліты», а што датычыцца вынаходніцтва новых апаратаў, дык мо пра гэта ведае другі намеснік генеральнага дырэктара І. Карбановіч.

Званю Ігнату Іванавічу Карбановічу. Чую тое ж самае: не, яны толькі рамантуюць «Інфраліты», я штосьці блытаю. Чую па тэлефоне, як у кабінет Карбановіча нехта ўваходзіць і ён пытаецца ў яго пра злашчасныя апараты, якімі, быццам бы, па сцвярджэнні карэспандэнта, у 1984 годзе займаліся ў аб'яднанні. Той нешта адказвае, і я нарэшце чую гучны ўсклік майго субяседніка: «Адмоўны вынік?» І ўжо мне: «Так, сапраўды, займаўся адзін аддзел, але з гэтага нічога не атрымалася».

Кажу Ігнату Іванавічу, што недзе чытаў — у многіх заходніх краінах даўно навучыліся рабіць экспрэсаналізы ўтрымання ў выкідах шкодных рэчываў: на выхлапную трубу надзяваецца партатыўны камп'ютэр, які паказвае... «Не ведаю, —перабівае мяне І. Карбановіч — можна было б, вядома, гэта купіць, але дзе ўзяць валюту?»

Вось так. А, між тым, нам дасканалыя аналізатары таксічнасці адпрацаваных газаў патрэбны мо яшчэ больш, чым развітым аўтамабільным дзяржавам. Бо там ужо стала паўсядзённай практыкай ужыванне нейтралізатараў, якія спрыяюць больш поўнаму спальванню бензіна, а г. зн. і многіх яго шкодных кампанентаў. Нельга забывацца і на тое, што наш аўтатранспарт працуе скрозь на этыліраваным бензіне, у якім шмат свінцовых дадаткаў і які ўжываць у гарадах наогул нельга. Дарэчы, выхлапныя газы аўтамашын ўтрымліваюць да двухсот розных шкодных рэчываў, сярод іх,, акрамя вокісу вугляроду, яшчэ такія страшныя атруты, як вокіс азоту, двувокіс серы, канцэрагенныя бензанітраты і г. д.

Колькі чаго ўтрымліваецца ў адпрацаваных газах у кожным канкрэтным выпадку (акрамя вокісу вугляроду), ніхто не ведае, бо няма для гэтага патрэбнай апаратуры. Ва ўсякім разе, айчыннай. Ды што гаварыць пра бензапірыны, калі няма ў нас нават дымамераў. Вы бачылі, які шлейф чорнага дыму сцелецца за дызельным аўтобусам ці грузавіком? Нават у час месячніка «Чыстае паветра» кантралёры на гэта не звярталі ўвагі, рабілі выгляд, што не бачаць таго дыму. Бо чым ты прыпячэш таго вадзіцеля, калі ў цябе няма ніякага інструмента, каб вымераць дым. Ты яму: «Чаму дыміш?», а ён у адказ: «Дзе вы бачыце?» Праўда, можна суцешыць сябе тым, што дызельны рухавік выкідвае вокісу вугляроду менш, чым бензінавы. Праўда, спецыялісты сцвярджаюць, што сажа, якой многа ў дыме, мае ўласцівасць адсарбіраваць канцэрагенныя кампаненты выкідаў.

Не помню, дзе я вычытаў, што выйсце — у экалагічна чыстым паліве. У якасці прыкладу называлі прыродны газ метан, на які, прынамсі, хутка пяройдзе большасць аўтамабільнага парку рэспублікі. Пераход гэты, відаць, ідзе хуткімі тэмпамі,

І вось цяпер, у час нашага імправізаванага рэйду на Магілёўскую шашу, выпадкова даведваюся, што аўтамабілі, якія працуюць на газавым паліве, атручваюць паветра тым жа вокісам вугляроду не менш за тыя, што ўжываюць бензін. «Але правяраць іх не маем права, — сказаў В. Рыжыкаў, — існуе інструкцыя толькі на бензінавыя рухавікі...»

Сёй-той, чытаючы гэтыя нататкі, спытае, чаму аўтар нічога не гаворыць пра медыкаў,, якая іх пазіцыя ва ўсіх гэтых пытаннях, нарэшце ж, забруджваецца паветра, гэта вядзе да самых цяжкіх захворванняў. Праглядаючы дакументы месячніка, я са здзіўленнем высветліў, што праводзіўся ён без удзелу санітарна-эпідэміялагічнай службы горада. Чаму? Ніхто не мог на гэта адказаць мне нават і на гарадской санстанцыі. «Нас не запрасілі»,—сказаў загадчык санітарна-гігіенічнага аддзела А. Вастракнутаў. Мы доўга гутарылі з ім на гэтую тэму, і я зразумеў, што ахова паветра ад забруджвання не мае прыярытэтнага значэння ў рабоце санстанцыі. Сёе-тое, праўда, праводзіцца, сям-там, калі-нікалі робяцца замеры паветра, але мэтанакіраванай, сістэматызаванай работы ў гэтым напрамку не відаць. Таму і не змог Анатоль Іванавіч расказаць мне пра рэальны стан паветра ў горадзе, не валодаў ён фактамі і лічбамі, якія тычацца гэтай справы. Праўда, гартаючы пры мне нейкі даведнік, А. Вастракнутаў заўважыў, што пэўныя даследаванні маскоўскіх вучоных сведчаць пра тое, што здароўе чалавека на 30 працэнтаў залежыць ад уздзеяння пэўных фактараў прыроднага асяроддзя. На трыццаць?.. У манаграфіі «Экалогія і рак», выдадзенай у Кіеве ў 1985 годзе, сцвярджаецца, што 85 працэнтаў захворванняў чалавека на рак цяпер звязаны з прыродным асяроддзем (уключаючы прадукты харчавання і стан атмасфернага паветра)...

**Міхась ЗАМСКІ.**

Барыс САЧАНКА



# „Сняцца сны аб Беларусі...”

## ЗАГАДКА СМЕРЦІ ЯНКІ КУПАЛЫ

Пакутную ён нам пакінуў загадку.
— А хто ж бы адважыўся зараз рашаць?
Яўгенія ПФЛЯЎМБАЎМ

Калісьці, у 1924 годзе, Янка Купала напісаў верш:

**...О так! Я — пралетар!..**
**Яшчэ ўчорах раб пакутны—**
**Сягоння я зямлі ўладар**
**І над царамі цар магутны!**

**Мне бацькаўшчынай цэлы свет,**
**Ад родных ніў я адвярнуўся...**
**Адно... не збыў яшчэ ўсіх бед:**
**Мне сняцца сны аб Беларусі!**

У ім, гэтым вершы,—глыбокі, не ўсімі яшчэ і сёння зразуметы сэнс, віль, боль і трагедыя многіх, уключаючы і самога нашага вялікага песняра...

I.

У жыцці Янкі Купалы было нямала цяжкіх гадоў. Адзін з іх—1930.

Пачаўся ён быццам не горш за іншыя, а можа, нават у сім-тым і лепш. Толькі што быў надрукаваны верш «Сыходзіш, вёска, з яснай явы...» (газета «Звязда», 19 снежня 1929 г., часопіс «Полымя», № 11—12, 1929 г.), у якім паэт вітаў тыя змены, што несла сацыялістычнае жыццё, а ўжо ў першым нумары «Чырвонай Беларусі» за 1930 г. з'явіўся новы верш—«Дыктатура працы». Гэта быў крок наперад у творчасці песняра, у спасціжэнні і адлюстраванні ім савецкай рэчаіснасці. Набліжалася 25-годдзе яго літаратурнай дзейнасці, і Купала добра, натхнёна працаваў, хацеў сустрэць па-належнаму гэтую дату. Ён, можа, больш, чым калі, ездзіць па Беларусі—пабываў у Бабруйску, Віцебску, Хойніках, Мазыры, сустрэўся ў Доме асветы з удзельнікамі Мінскай акруговай настаўніцкай канферэнцыі. Не парушаўся і заведзены гадамі парадак і рытм—у Купалы кожны дзень шмат самых розных гасцей: прыходзяць сябры-літаратары, моладзь, прыходзяць і тыя, хто набыў вядомасць і ўладу—акадэмікі, партыйныя і дзяржаўныя дзеячы: усім хочацца пагаварыць з паэтам, параіцца, пачуць яго мудрае, аўтарытэтнае слова. «Дзверы яго гасціннага дома не паспявалі зачыняцца за шматлікімі наведвальнікамі» (М. Лужанін). Гаспадары гэтага дома—«Іван Дамінікавіч і Уладзіслава Францаўна—былі рады гасцям і рабілі ўсё, каб яны не былі чым-небудзь пакрыўджаны. Сапраўднае хлебасольства і гасціннасць гаспадароў купалаўскага дома ледзь не ўвайшло ў прымаўку» (М. Лынькоў). І хоць сам «Купала быў стрыманы па выяўленню пачуццяў, раскрываўся перад суразмоўнікамі не часта і ненадоўга» (М. Лужанін), «па сваёй натуры» «быў маўклівы, больш любіў слухаць, чым гаварыць» (Уладзіслава Францаўна), аднак «любіў бываць сярод людзей, і людзі шанавалі і ўмелі цаніць яго прысутнасць» (М. Лужанін). «Ён усё павінен быў асэнсаваць сам. Ён адкрыта выказваў свае сумненне накont чаго-небудзь, пакуль не прапускаў той або іншы факт праз лабараторыю сваёй асабістай думкі. І гэта надавала асаблівую каштоўнасць яго грамадска-палітычным пазіцыям. Ён ахвотна прыслухоўваўся да довадаў і пярэчанняў субяседнікаў» (С. Шамардзіна). Нарэшце, 28 мая ў Мінску ў Доме асветы адбываецца вечар, прысвечаны 25-годдзю літаратурнай дзейнасці песняра. Невялікая зала гэтага Дома перапоўнена. Паэта горача віншуюць сябры-пісьменнікі, рабочыя, сяляне, піянеры... Зачытваюцца вельмі цёплыя тэлеграмы і віншавальныя адрасы ад СНК БССР, ЦВК БССР, ад працоўных калектываў, ад рэдакцый часопісаў і газет, ад пісьменнікаў РСФСР, Украіны і іншых рэспублік, ад Камакадэміі і секцыі мастацтваў народаў СССР... Усхваляваны паэт гаворыць прамову, якая потым друкуецца ў газеце «Звязда», як «Ліст у рэдакцыю» (30 мая 1930 г.), у якой, акрамя слоў падзякі «Савецкай уладзе і савецкай грамадскасці», былі і такія словы: «Я кажу, таварышы, што пакуль хопіць маіх сіл, я не сыду з таго шляху, па якім ішоў да сягонняшніх векапомных бурлівых дзён,—заўсёды наперад і наперад! Бяда і гора маё і ўсяго працоўнага люду беларускага адыходзяць усё далей — у нябыт, а шпаркім крокам творчасца квяцістае беспрыгоннае бытаванне, абы толькі шчыраЙ працай і безаглядна аддана Ленінскім заветам дапамагаць хутчэйшаму набліжэнню гэтай светлай часіны!»

Праз некалькі дзён — 9 чэрвеня адбыліся ўрачыстасці ў Маскве—вечар у Камакадэміі, на якім выступіў народны камісар асветы РСФСР А. В. Луначарскі,—ён засведчыў факт, што «імя Я. Купалы ўпісана ў гісторыю беларускай літаратуры такімі ж буйнымі літарамі, як і імя Тараса Шаўчэнкі ва ўкраінскай літаратуры». У тым самым месяцы часопіс «Полымя» змясціў на сваіх старонках (№ 5—6) 18 арыгінальных твораў і 9 перакладаў з архіва паэта, якія, як гаварылася ва ўступе, «раней па цэлым шэрагу прычын, у тым ліку і па цэнзурных, нідзе не друкаваліся...» Беларускае дзяржаўнае выдавецтва, якое ў сувязі з пяцігоддзем працы паэт прывітаў вершам, выдавала першы яго «Збор твораў»; яно ж, гэтае выдавецтва, падрыхтавала і вялікі том выбранай паэзіі песняра пад назваю «Творы 1918—1928». Янка Купала вычытаў карэктуру і застаўся задаволены кнігай, бо ў яе, акрамя шырока вядомых ужо вершаў, напісаных у савецкі час,—«А зязюлька кукавала», «Беззаконнае», «Арлянятам», «Піянерскае», «На смерць Сцяпана Булата», «На Даўгінаўскім гасцінцы»,—увайшлі і тыя, што былі напісаны ў нямецкую і польскую акупацыю і пакуль нідзе не друкаваліся, а калі і друкаваліся, дык у такіх выданнях, якія проста былі недаступныя масаваму чытачу—«На нашым...», «Паўстань», «На сход», «Час», «З павяўшай славай», «Беларускія сыны», «Свайму народу», «Наша гаспадарка», «Каб...», «Паэт і цэнзар», а таксама пераклады, прычым, важныя, у пэўнай ступені этапныя—«Міжнародны гімн» («Інтэрнацыянал»), паэма В. Палішчука «Ленін», паэма У. Бранеўскага «Песня аб вайне грамадзянскай», «Песня аб паходзе Ігара» і інш. Кніга была прысвечана «памяці тых, што памерлі ў змаганні за нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне маёй бацькаўшчыны».

І хоць на сходах, ды і друку сёй-той спрабаваў не зусім паважліва выказвацца пра самога паэта і асобныя яго творы, спрабаваў прыпісаць яму розныя «нашаніўскія», «адраджэнцкія», «нацдэмаўскія» грахі і настроі (напрыклад, М. Аляхновіч, Бэндэ і інш.), паэт не надаваў гэтаму значэння. Вёў Купала сябе высакародна і з моладдзю, не прымаў удзелу, як некаторыя, у барацьбе з «маладнякоўскім» задзёрам і напорыстасцю. Было яму і без таго чым займацца і пра што думаць! Пачаўся ж адыход ад ленінскіх нормаў жыцця, узвялічвалася асоба Сталіна і яго нейкая выключная роля ў жыцці партыі і краіны, вяліся пошукі і выкрыццё розных «контррэвалюцыянераў» і «контррэвалюцыйных» арганізацый. Выклікаліся адзін за адным ад пасад людзі не надта «надзейныя». Ужо быў вызвалены ад пасады Старшыні СНК БССР і адкліканы ў Маскву Язэп Адамовіч, з якім Купала часта сустракаўся, амаль пасябраваў, былі вызвалены ад пасады сакратара ЦВК БССР З. Чарнушэвіч, ад пасады дырэктара Беларускага дзяржаўнага выдавецтва і рэдактара часопіса «Полымя» Ц. Гартны, ад пасады рэдактара газеты «Савецкая Беларусь» М. Чарот... Ды і з «беларусізацыяй» ішло не ўсё так, як задумвалася, меркавалася... Што ўсё гэта значыла?..

Балюча ўдарыла Купалу і вестка, што прыйшла ад маці і сясцёр і якая прымусіла нямала пахвалявацца,—іх, як выявілася, хоць на тое і не было ніякіх падстаў, раскулачылі. Пакуль паэт бегаў па розных інстанцыях, шукаючы, хто б заступіўся, сясцёр пасадзілі на цягнік і павезлі ў Котлас. Цяжка сказаць, што б і як з імі было, каб не энергічнасць і рашучасць Уладзіславы Францаўны—яна дагнала цягнік з раскулачанымі ў Барысаве і, маючы хоць і не вельмі пераканаўчыя і дзейсныя паперы, дамаглася, каб Купалавых сясцёр вызвалілі, не везлі далей... Не паспелі апамятацца ад адной бяды, пачаліся новыя—знаёмых Купалу людзей, тых, каго ён ведаў, з кім працаваў у Тэрміналагічнай камісіі, у Інбелкульце, потым у Акадэміі навук, якія часта бывалі ў яго дома і з многімі з якіх ён сябраваў,—вызвалялі ад пасад і арыштоўвалі. За якія месяцы за кратамі апынуліся Я. Дыла, В. Ластоўскі, А. Смоліч, С. Некрашэвіч, Я. Лёсік, У. Пічэта, Б. Эпімах-Шыпіла, М. Гарэцкі, М. Грамыка, У. Дубоўка, А. Гурло, Я. Пушча, У. Жылка, А. Бабарэка, народны камісар асветы БССР А. Баліцкі, народны камісар земляробства БССР З. Прышчэпаў і многія-многія іншыя... Больш таго, не пакінулі ў спакоі і самога Купалу, пачалі ўсё часцей і часцей выклікаць у ГПУ... Чаго ад яго дамагаліся? Пакольні амаль усе арыштаваныя часта бывалі ў паэта дома, то... Што яны там рабілі, як сябе паводзілі, што гаварылі, абмяркоўвалі, якія пры гэтым выказваліся і кім думкі? І не толькі дома ў Купалы, але і ў іншых месцах—на пасяджэннях Тэрміналагічнай камісіі, у Інбелкульце, у Акадэміі навук? Ды і па якіх меркаваннях, чаму сёй-той залічваўся на працу?.. А канфіскаваны веснік «Адраджэнне»? Як ён узнік, хто быў у яго рэдкалегіі?.. Ці не знарок дзеля гэтага выдання Я. Купала напісаў верш «Паўстань»?

Янка Купала, чалавек крыштальнай сумленнасці, не мог гаварыць няпраўды. А тым, хто яго дапытваў, патрэбна была няпраўда, патрэбна было тое, што не апраўдвала б, а кампраметавала б пасаджаных за краты. Следчыя, каб заблытаць Купалу, супастаўлялі яго паказанні, спрабуючы «вывудзіць» хоць што патрэбнае ім, таму затрымлівалі яго ў сябе ўсё больш і больш—іншы раз, пайшоўшы ў ГПУ пасля абеду, ён вяртаўся адтуль толькі пад раніцу.

Купала, як піша ў сваіх успамінах М. Грамыка, заўсёды добра ўсведамляў тую ролю, «якую адвяла яму гісторыя ў культурным развіцці свайго народа», таму даражыў кожным сваім словам, нягледзячы на яно было друкаванае ці вуснае. Таму не паддаваўся ні на якія кампраміссы. Паэт-прарок, паэт-вяшчун ён многае ведаў і бачыў далёка наперад. Да таго ж, ён рады быў, што скончылася разруха і неразбярыха ў Беларусі, змены адной улады на другую, ён цаніў усё тое, што далі, зрабілі і дзеля яго самога і дзеля ўсяго беларускага народа бальшавіцкая партыя і Саветы. Пра гэта ён неадноЙчы гаварыў—і ў сваіх творах, і ў выступленнях у друку ў сувязі з наданнем яму годнасці народнага паэта, і ў сувязі з 25-годдзем літаратурнай дзейнасці. Быў Купала тады, паводле слоў М. Грамыкі, «у росквіце гадоў і здароўя. Рысы твару, колер валасоў, позірк—тыповыя для значнай часткі беларусаў. Лоб... Лепш назваць яго старым, але больш выразным словам—«чало». Досыць было раз-другі зірнуць на гэтае чало, каб упэўніцца: там, у падкорковых тайніках павінны хавацца да часу думкі і пачуцці, якія пазней вобразамі слоў асядуць у сэрцах людзей!

І гэтая ўсмешка! Тады яна лёгкай хвалькай бегла ад вачэй да вуснаў. Пазней, праз колькі год, усмешка ягоная набыла нязвычную сталасць, глыбіню з адценнем суму і нейкай нібы адказнасці. Яна сведчыла аб яго закончанай усвядомленасці сваёй выдатнай ролі ў справе станаўлення нацыянальнага аблічча народа, з нетраў якога ён выйшаў. А. П. Чэхаў выказаўся ў адным з лістоў у час хваробы Льва Талстога прыкладна так: «Страшна падумаць, што Талстой можа памерці. Пакуль ён жывы, не сорамна быць рускім пісьменнікам. Пры ім не падыме галавы ў нашай літаратуры ніводзін прахвост!»

Так прыкладна адчувалі сябе пры Янку Купале ўсе нашы пісьменнікі. Мы як бы знаходзіліся пад дбайнай, няспыннай ахоўвай яго маральнага аўтарытэту...»

А як адчувалі сябе «пры Янку Купале» тыя, хто яго дапытваў, патрабаваў прызнанняў? Ды і хто быў для іх Купала? «Подследственное лицо», не болей. Нежаданне Купалы гаварыць пра арыштаваных негатыўнае, кампраметуючае, было расцэнена, што і сам Купала такі ж, як і ўсе астатнія ўдзельнікі «нацдэмаўскай контррэвалюцыйнай арганізацыі», яе духоўны натхняльнік і правадыр. У выдавецтве затрымліваецца кніга «Творы 1918—1928», увага звяртаецца не на шырока вядомыя вершы паэта, што мелі гучны розгалас ва ўсёй Савецкай краіне, не на яго пераклады «Міжнароднага гімна» («Інтэрнацыянала»), паэмы «Ленін», а зусім на іншае, у прыватнасці, на верш «Паўстань». Якраз жа пры арышце Язэпа Лёсіка ў яго рэчавых доказах, якіх нагрузілі цэлую падводу, знаходзяць газету «Звон» ад 17 верасня 1919 года, дзе побач з артыкулам, прысвечаным Пілсудскаму, змешчаны гэты твор... Купала кажа, што ён у гэтым невінаваты, верш быў напісаны 28 жніўня 1918 года, калі ні пра якога Пілсудскага і мовы быць не магло. Паэту не вераць, а, можа, робяць выгляд, што не вераць. Просяць, патрабуюць, каб патлумачыў, як наогул пішуцца творы, у прыватнасці, як і чаму былі напісаны п'еса «Тутэйшыя», верш «Перад будучыняй» ды і іншыя. Урэшце, яму аб'яўляюць пра яго прыналежнасць да «нацдэмаўскай контррэвалюцыйнай арганізацыі»... «Натура Купалы была складаная, надзвычай тонкая, чуллівая, кволая. Знешне спакойны, роўны, нават сарамлівы, сціплы, Янка Купала быў глыбока ранімы» (Г. Гарэцкі). І вядома ж, на нахабства і несправядлівасць следчых не мог прарэагаваць. А тыя насядалі, патрабуючы ўжо ад паэта публічнага «пакаяння», адрачэння ад таго, чаму паэт служыў усё сваё свядомае жыццё, у што верыў. Аднак Янка Купала быў не той чалавек, каб нагаворваць на сябе і на іншых, каяцца ў грахах, якіх не меў, выракацца сябе і сваіх спраў, думак, якімі жыў, мроіў, якім служыў. Ён, хоць

## УРОКІ ЗМАГАННЯ

**У гродзенскім клубе «Паходня» адбылася сустрэча моладзі з удзельнікамі падпольнага руху ў Заходняй Беларусі. Да пахаднянцаў прыйшлі А. Карпюк, П. Конюх, А. Дэмбіцкі, П. Кавалеўскі і П. Дабрыян.**

**Прачулае, вольнае ад звыклых штампаў слова сказаў пра членаў КПЗБ гісторык, кіраўнік клуба «Паходня» М. Ткачоў.**

**— Мы нямала ўжо ведаем пра кіраўнікоў вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі, — адзначыў ён, у прыватнасці,— але куды меней — пра шэрагоўцаў, якія паўсядзённымі справамі клалі сваю цагліну ў агульную барацьбу. Яны зазналі Лукішкі і Макотуў, Уронкі і Картуз-Бярозу. Маладая рунь гінула ў змаганні за ідэі. Барацьба гэтая набывала ўсемагчымыя формы: ад забастовак да агітацыі за беларускую школу і выданне нацыянальнай прэсы. На вялікі жаль, трагедыя 30-х гадоў не абмінула і Кампартыю Заходняй Беларусі. Цяжкая сякера сталінскіх рэпрэсій нішчыла змагароў і маральна і фізічна. Шмат хто з іх, асабліва з кіраўнікоў, паспытаў у дадатак яшчэ і хлеба Калымы, Магадана, Салаўкоў і Караганды.**

**Шмат і цікава апавядалі былыя падпольшчыкі.**

**Павел Мікалаевіч Конюх родам з Беласточчыны. У сваёй вёсцы над ракой Нарваю ён старшыняваў у гуртку «Грамады». З памяці яго дагэтуль не сцерліся палітычныя вершы, прачытаныя калісьці ў «Маланцы»: «Як я трапіў у камуністы» і «Размова званоў з бедным селянінам».**

**Пётр Дарафеевіч Кавалеўскі ў 1920-м добраахвотна ўступіў у Чырвоную Армію, змагаўся з калчакоўскімі недабіткамі. Пасля вайны працаваў на камсамольскай рабоце, у міліцыі, арганізоўваў камуны.**

**На пачатку 1923 года ён вярнуўся на бацькаўшчыну ў Слонімскі павет. З Савецкай Расіі вярталіся былыя чырвонаармейцы, камсамольцы і камуністы. Яны пачалі гуртавацца дзеля далейшае барацьбы, бо без яе не ўяўлялі свайго жыцця.**

**Неўзабаве на раённай канферэнцыі, якая патаемна адбывалася на могілках, Кавалеўскага прынялі ў партыю. Прысутнічала на канферэнцыі Вера Харужая.**

**За няпоўныя 17 гадоў у Заходняй Беларусі П. Кавалеўскі тройчы трапляў у турму і быў асуджаны адпаведна да чатырох, шасці і пятнаццаці гадоў зняволення.**

**Пётр Навумавіч Дабрыян вядомы быў у Заходняй Беларусі як паэт, які падпісваў свае творы псеўданімам Алесь Су**

